

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

**Каляндар 2018 год**




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 52 (3215) Год LXII | Беласток, 24 снежня 2017 г. | Цана 4,00 зл. (у тым VAT 5%)


ЧЫТАЧАМ, ЯКІЯ СВЯТКУЮЦЬ КАТАЛІЦКІЯ КАЛЯДЫ, ЖАДАЕМ ВЯСЁЛЫХ, СЯМЕЙНЫХ, ЗДАРОВЫХ СВЯТАЎ!

# Мы яшчэ не выдыхаліся!



Барыс Пятровіч і Яўген Вапа



Зміцер Бартосік

**— Дваццаць гадоў «Бязмежжа», гэта малы юбілей. Аднак калі глядзець на тое, што адбылося за гэты час у літаратуры беларусаў Падляшша, гэта вялікая, неверагодная справа. Нягледзячы на жахлівы працэс асіміляцыі, мы ўсё жыццяздольныя ў літаратурным сэнсе. А галоўнае, мы не пастарэлі! — заявіў Яўген Вапа, арганізатар і душа «Бязмежжа».**

У доказ сказанага прамовілі падляшскія прэзентацыі. Ніколі раней не прагучала столькі новых і спелых літаратурных выступленняў. Андрэй Сцепанюк падрыхтаваў новую нізку вершаў, якія літаральна пасадзілі ў крэсла слухачоў. У іх сугучнасць беларускага лёсу і краявіду, а таксама ашчаднасць слова і аўтарская спеласць. Яшчэ большага смаку нарабіў Міхась Андрасюк, які зачытаў фрагменты «Лавачкі», якая друкаваліся ў «Ніве». На кніжку Андрасюка, якой выхад прымеркаваны да 2018 года, чакаюць чытачы па абодвух баках мяжы. Ацэнку таленту гэтага творцы выказаў прафесар Алег Латышонак:

— Летам, калі я еxаў у падарожжа, я заўсёды вазіў з сабой мініяцюры Міхася Андрасюка, каб іх перачытваць у дарозе.

Беларускі космас і пошум старога лесу зафіксавала ў сваіх навейшых паэтычных тамах «Радаслоў» і «Спеў Дрэў» Міра Лукша. Якраз на «Бязмежжы» праходзіла першая, афіцыйная прэзентацыя зборніка «Спеў Дрэў». Паколькі ўвагу сучаснага чытача прыкоўваюць найперш малюнкі мастака Мірослава Здрайкоўскага, настолькі аўтарскія чытанні поўнасцю павярнулі ў бок метафізічнага пераказу твораў. Немагчыма адназначна сказаць, ці «Спеў Дрэў» для дзяцей, ці для дарослых. Хутчэй кожны адчытае або «размалюе» іх на свой спосаб.

У выдавецкіх планах на 2018 год значыцца беларуска-польская падборка паэзіі Надзеі Артымовіч у перакладзе Марціна Рэмбача. Творы Артымовіч не старэюць. Выданне накіраванае найперш для польскамоўнага чытача і маладога пакалення беларусаў.

У рукі фанатаў дакументальнай літаратуры (якіх усё больш у Беларусі) яшчэ напрыканцы гэтага года трапіць новая кніжка Ганны Кандрацюк «Па Прыпяці ў Нобель».

І гэта далёка не ўсё, чым магло б пахваліцца актуальнае «Бязмежжа». Трэба сказаць, што па прычыне перагружанасці праграмы не ўсе запрошаныя творцы з Падляшша (а таксама Беларусі) мелі магчымасць зачытаць свае новыя творы, а абмежаваная колькасць месцаў у легендарным ужо пансіянаце Бора-Здруй не дазволіла запрасіць усіх паэтаў і празаікаў, жадаючых прыняць удзел у семінары.

* * *

— Для мне «Бязмежжа» ад пачатку было нейкай фантастычнай краінай, — кажа Алесь Аркуш, пісьменнік і журналіст Радыё Рацыя. Будучы ўдзельнікам першага семінара ў 1996 годзе, не ведаў яшчэ, што лёс звяжа яго з Беласточчынай. На першае «Бязмежжа» дабіраўся са старажытнага Полацка разам з Уладзімірам Арлоўым, дзякуючы чаму фізічна пашырылі яны абсяг толькі што выклёўванай ідэі. З гэтай паездкі, якая завяла яго ў Гайнаўку, дзе адбываўся семінар, Аркуш прывёз эстэтычнае ўяўленне пра наш свет. Семінар адбываўся ў месяцы маі, а частка чытанняў праходзіла ў Белавежскай пушчы:

— Я першы раз пабачыў пушчу ў вадзе, — кажа пісьменнік, — і гэта была настолькі фантастычная, казачная карціна, што яна не адпускае мяне па сённяшні дзень.

Зміцер Бартосік, які ў бягучым годзе за кніжку «Быў у пана верабейка гаварушчы» заваяваў тры літаратурныя прэміі: імя Ежы Гедройца, Алеся Адамовіча і Аляксандра і Марыі Стагановічаў, у прынцыпе пастаянны госць «Бязмежжа». Сярод сяброў літаратараў першапачаткова ўспрымаўся як бард і таленавіты апавядальнік анекдотаў. Калі ў час мінулагодняга семінара, пад здаровы рогат слухачоў, прэзентаваў свайго «Верабейку», усё здавалася як трэба і на месцы, карацей кажучы, Бартосік стрымліваў свой здаровы, каларытны стыль. Лавіна ўзнагарод нічога не памяняла. Сам аўтар жартаваў як і раней ды зачытаў новыя непадцэнзурныя апавяданні. Як прызнаўся, у яго выдавецкіх планах маецца кніжка менавіта з такім гумарам і нецнатлівым зместам.

Супрацьвагу Бартосіку саставіў мінскі паэт Анатоль Івашчанка, які ў сваіх вытанчаных новых паэтычных радках распавёў пра беларускую духоўнасць. Паэзію на памежжы лірычных і празаічных жанраў, надта распаўсюджаную ў Заходняй Еўропе і Амерыцы, прадэманстраваў Віталь Рыжкоў, паэт родам з Магілёва. На сваім прыкладзе Рыжкоў, як у свой час зрабілі гэта Надзея Артымовіч ці Алесь Разанаў, узяўся актуалізаваць у навейшых сусветных літаратурных трэндах беларускую літаратуру. За такое не чакаюць узнагарод, хутчэй прыходзіцца змагацца з заядлай крытыкай. Інакш вырашыў зачароўваць сваіх чытачоў і асабліва чытачак Усевалад Сцебурака. У яго моцная, мужчынская паэзія, якая хвалюе і адначасова суцяшае. Дарэчы, маладога мінскага паэта хочацца не толькі слухаць...

Такое прыемнае ўражанне пакінула музычная частка Тацяны Грыневіч.

* * *

Як не цікава, юбілей «Бязмежжа» сышоўся з 15-годдзем часопіса «Дзеяслоў» і ягоным 90-м нумарам. За гэты час, нягледзячы на праблемы з распаўсюдам, часопіс стаў найбольш прэстыжным сучасным літаратурным выданнем у беларускім свеце.

Барыс Пятровіч, галоўны рэдактар «Дзеяслова», з'яўляецца таксама суарганізатарам «Бязмежжа». Ад гадоў ён прыязджае на наш літаратурны семінар з адборнай літаратурнай камандай. Гэты жывы кантакт спрацоўвае не толькі як інспірацыя для творцаў. Дзякуючы кантактам і публікацыям у «Дзеяслове», падляшскія аўтары знайшлі чытачоў у Беларусі, а нават заваявалі прэстыжныя літаратурныя ўзнагароды. Анатоль Івашчанка выступіў менавіта з дакладам «Прысутнасць беластоцкіх аўтараў на старонках „Дзеяслова"». У ім друкаваліся Андрэй Сцепанюк, Міхась Андрасюк, Ян Чыквін, Юрка Буйнюк, Надзея Артымовіч, Кася Сянкевіч, Міра Лукша, Яўген Вапа і ніжэйпадпісаная. Як адзначылі мінскія літаратары, польска-беларускае памежжа гэта свайго роду феномен. Падобныя з'явы не выступаюць на літоўска-беларускім, беларуска-латышскім ці расейска-беларускім памежжы. Нейкія літаратурныя парасткі з'явіліся дзякуючы Наталцы Бабінай на ўкраінска-беларускім памежжы.

— Ад сябе магу дадаць, што мы яшчэ не выдыхаліся, — падвёў семінар Яўген Вапа.

У падзяцы за плённае супрацоўніцтва ён падарыў Барысу Пятровічу адмысловы падарунак — герб Пагоня з прызначэннем: *Абарончаму рыцару беларускай літаратуры!*

Шмат месца і часу занялі прэзентацыі запрошаных гасцей. Дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Анатоль Вап, дзякуючы якога падтрымцы, між іншым, выйшлі пераклады кніг Барыса Пятровіча і Алены Брава, гаварыў пра польска-беларускія культурныя ініцыятывы Маршалкоўскай управы. Алег Латышонак асвятліў новую з'яву на Падляшшы, менавіта месца і выкарыстанне дыялектаў і дзеянняў *па-свойму* і *па-просту*. Алесь Пашкевіч, у сваю чаргу, назваў культурныя працэсы і шматлікія дзеянні Саюза беларускіх пісьменнікаў. Даклад пра знаёмства з рэгіянальнымі літаратурнымі выданнямі зачытаў згаданы ўжо Усевалад Сцебурака. Як не цікава, літаратурны працэс знайшоў найбольш спрыяльную глебу на Брэстчыне і Магілёўшчыне.

* * *

Вернемся аднак на свой панадворак і прыгадаем пачаткі ідэі «Бязмежжа». Задума семінара, як і шмат іншых культурных і грамадскіх беларускіх мерапрыемстваў («Басовішча» ці «Купалле»), нарадзілася на дачы спадарства Латышонкаў у Супраслі. Марай ініцыятыўнай тройцы: Алега Латышонка, Яўгена Вапы і Міколы Ваўранюка была прага сустракацца з беларускімі літаратарамі маладога і сярэдняга пакалення. Ішло яшчэ, каб абвергнуць міф, што ў беларусаў выбіта толькі савецкая літаратура пра вайну. Штуршком для ажыццяўлення ідэі стаў том Алеся Разанава «Вастрыё стралы», які, дарэчы, пераклаў на польскую мову Алег Латышонак.

— Мяне ўсё пыталі, чаму я ўзяўся за літаратуру, — успамінае пачаткі прафесар Латышонак. — Здзіўляўся я такому пытанню і ў рэшце рэшт адказаў: «То ж я гуманіст!».

Можна сказаць, што «Бязмежжа» гэта бязмежная суполка гуманістаў, апантаных любоўю да культурных каштоўнасцей чалавецтва. Сваё значэнне для грунтавання і развіцця дваццаці выпускаў «Бязмежжа» і яго плёну мае фінансавая падтрымка з боку дзяржавы.

XX «Бязмежжа», якое 8-10 снежня г.г. праходзіла ў пушчанскім пансіянаце Бора-Здруй, падтрымалі міністр унутраных спраў і адміністрацыі РП, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, войт Нараўчанскай гміны і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**





# Фальшывыя ахвяры

На фоне карэйскага крызісу, допінгавых алімпійскіх скандалаў, абвастрэння ізраільска-палесцінскай сітуацыі і чарговага вылучэння Уладзіміра Пуціна на пажыццёвае цараванне ў Расеі чырвонай ніткай у сусветных навінах апошнімі месяцамі цягнецца тэма сексуальных дамагальніцтваў. Тэма далікатная, тэма вострая, тэма для многіх цьмяная. І тэма, у значнай ступені, прабачце, высмактаная з пальца. Хваля гэтых скандалаў, ці псеўдаскандалаў ідзе са Злучаных Штатаў Амерыкі, характэрная для Еўропы і пакуль не асабліва актуальная для нашага ўсходнееўрапейскага, у значнай ступені патрыярхальнага і кансерватыўнага грамадства. Але рана ці позна хваля дакоціцца і да нас.

Пытанне сексуальных дамагальніцтваў у тым выглядзе, як яно раскручана зараз — гэта найперш тэхналогія так званага чорнага піяру. Пачаць можна было з праўдзівай, ці праўдападобнай гісторыі, як здарылася з гэтым кінапрадзюсарам з галівудскай „даліны распусты” Харві Вайнштэйнам. Пробны шарык патрапіў у цэль абсалютна, далей можна было брацца за маральнае знішчэнне журналістаў, бізнесоўцаў і ўрэшце палітыкаў. Цяпер дастаткова якой заўгодна жанчыне заявіць пра прыставанні да яе з боку некага, нават гадоў дваццаць таму, і ўзыходная ці ўжо пасяховая кар’ера гэтага мужчыны будзе скончана. Парушана нават свяцейшае са святых, выбіты кутні камень заходняй дэмакратыі — прынцып прэзумпцыі невінаватасці. Ні суда, ні следства — могуць узяць і звольніць з працы толькі па нейкай публічнай заяве нейкай неадэкватнай асобіны.

Праваабаронцам ужо пара задумацца над тым, што дыскрымінацыі падвяргаюцца ў наш час менавіта мужчыны. І найперш мужчыны гетэрасексуалы становяцца безабароннымі перад гэтай прымітыўнай, але дзейснай тэхналогіяй дыскрэдытацыі.

Тэхналогія такога чорнага піяру дайшла ўжо да вярхоў амерыканскай палітыкі. Палітык-рэспубліканец Дэн Джонсан у выніку заявы 21-гадовай дзяўчыны пра рэальныя ці прыдуманыя дамаганні да яе нават застрэліўся. Зараз ужо будзе немагчыма высветліць — сапраўды чапляўся ён да яе ці не. Іншы рэспубліканскі палітык Рой Мур у традыцыйна рэспубліканскім штаце Алабама прайграў выбары ў Сенат. Прычына ўсё тая ж — галаслоўныя абвінавачанні ў сексуальным дамагальніцтве — на гэты раз ажно 9 жанчын зрабілі адпаведныя заявы. Выглядаюць гэтыя 9 жанчын на фальшывых „ахвяр”. Афіцыйнага расследавання не было, доказаў ніякіх, але грамадская думка ў ЗША зараз такая, што гэтых заяў становіцца дастаткова. У выніку рэспубліканец прайграў. Найбольш цешылася з гэтай перамогі дэмакратаў у штаце Алабама місіс Клінтан, нядаўняя кандыдатка ў прэзідэнты. Хілары Клінтан ажно падскоквала ў крэсле ад задавальнення. Як жа памыліліся, дакладней не паспелі скеміць яе піяршчыкі, у час выбарчай кампаніі. Заяўляць пра тое, што Дональд Трамп неўраўнаважаны сексіст — гэта ж было так мала! Патрэбна было місіс Клінтан, жонцы бездакорнага і маральна чыстага Біла, заявіць, што брутальны Трамп гадоў дзесяць таму яе нахабна дамагаўся і ў Белым доме сёння б сядзела менавіта яна. Эх, як запазніліся паліттэхнологі дэмакратычнай партыі, за што толькі хлеб свой ядуць!

А калі сур’ёзна, то зараз будзе надзвычай цяжка разабрацца — дзе сапраўдныя мярзотнікі і гвалтаўнікі, а дзе звычайныя мужчыны, якія зрабілі пэўныя знакі ўвагі да жанчыны. Адбываецца свядомая дэвальвацыя традыцыяналізму і палітычная спекуляцыя на тэме асабістага жыцця чалавека.

Прыгадваецца тут мне і адна сітуацыя на нашых прасторах, калі адзін з выкладчыкаў семінара па палітычных тэхналогіях наўпрост заяўляў, што на выбарах у час кампаніі трэба казаць, што твой канкурэнт спіць са сваёй дачкой. І, маўляў, не важна, праўда гэта ці не. Так што не думайце, што тэма гэтая такая далёкая ад нашых рэалій. Тым больш, што самае лепшае, што ёсць на Захадзе, да нас неяк не даходзіць, а вось сама горшае прышчапляецца куды хутчэй.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Міркаскопкі



**Пакута**

Кожны чалавек мае ўсталяваную для сябе квоту пакуты. Кожны неяк пакутуе. Пакутуе сапраўды і мучыцца дэкаратыўна, што зусім не азначае, што дэкаратыўнасць пакуты прымяншае сам боль. Пакута з’ўяўляецца нейкай ідэяй на існаванне — не заўсёды добрай. Не абавязкова ідэяй, якую варта песціць у думках, хаця б толькі таму, што змест пакуты рана ці позна натуральна сатрэцца, а тое, што ад яе застанецца і што далей упарта называем пакутай, гэта проста пустое века, зношаная форма недарэчна бессэнсоўнага існавання чалавека, які не можа абысціся без ідэі пакуты. Гэта паказвае, наколькі важныя ідэі. Паказвае таксама, хто на самой справе чалавек. Ну, хто?

**Дзіра**

Рыхтаваўся паскудны ранак — лона неба зацягнулі цёмныя, кучаравыя аблокі, якія прадказвалі завею. Або хутчэй шэра-бурую хляпаніну. А тут раскошная дрыготка працяла мяне наскрозь. Ну і што, што будзе мокры снегапад! У мяне ёсць парасон. Вытанчаны, чорны, з па-майстэрску выразанай ручкай у форме дракона. Праўда, з вялікай дзіроё ў чашы, таму ў выпадку дажджу або завеі мала ад яго карысці. Дзіру, можа быць, выгрызлі молі. Мабыць, былі гэта жахлівыя істоты, што ўскосна даказвае тая дзіра, адпаведная да іх велічыні. Пакуль парасон складзены, выглядае вельмі элегантна. Але ў яго ёсць свае экстраардынарныя капрызы. Ніяк не хоча раскрыцца, калі ідзе дождж або снег. Нешта ў ім заскоквае, заціраецца і амін! Але калі раз’ясніцца неба, ён можа цалкам нечакана разявіцца да яго, як галоднае птушаня, паказваючы мінакам ненажэрную дзірку. Які сорам!

Дзіра дзіры не раўня... Але давайце прадставім гэта па аналогіі. Вось вугор на носе! Проста каростанька, але, гледзячы ў люстэрка, мы не бачым носа, твару і цэлай нашай мілавіднай формы, толькі гэты прышч, які расце ў вачах, і, нарэшце, становіцца франкенштэйнавай пачварай. Сапраўды гэтак жа і з тою дзіркай...

Драматычна тузаючыся з адкрытым парасонам, не раз я кляўся яму адпомсціць. Але ніколі не змог выкінуць яго, скажам, у вулічную сметніцу. Заўсёды, калі стаўлю ў яе бок помслівы крок, раптам праз тую адтуліну ў парасоне падаў на мяне зіхатлівы прамень святла праяснелага неба. Я спыняўся — у вышэйшай ступені здзіўлены.

Убачце гэта: непадалёк ад сметніцы, застылы нерухома, трымаю ў руцэ раскрыты парасон... Побач мяне, атрасаючы з павек апошнія шматкі дажджу або снегу, праходзяць выпадковыя людзі. Сонца свеціць. Але некаторыя фукаюць, што запыняю ім дарогу; некаторыя абмінаюць мяне шырока, магчыма, устрывожаныя відам мужыка, застылага нерухома пад дзіравым парасонам. Не ведаюць, што я гляджу на дзірку ў яго чорнай чашы. Не ведаюць, што ўліваецца праз дзірку сонечны прастор неба. Яны не ведаюць, што я патанаю ў яго золаце і блакіце. Заваражаны!

Бо з гэтымі дзірамі такая справа: часам закрываюць яны ўвесь свет; а часам раскрываюць усю яго прыгажосць. Вось, жыццё...

**Скатомы**

Ёсць дні, калі без тлумачэння прычын, раптам і супраць сябе, адчуваем сябе зусім маленькімі. Вось, такімі ліліпутамі ў краіне гігантаў. І на працы не ладзіцца. Напрыклад жудасна аблае нас кіраўнік, без дай рацыі. І пасля працы не лепш. Вось нарываецца на нас на лесвіцы Самасцюкова, суседка з першага паверха — ведзьма! І, вядома ж, не даючы прычыны, лае нас за штосьці, у чым мы не вінаваты... Невядома, чаму адчуваем сябе вялікімі, а часам зусім малымі. Магчыма, гэта адбываецца з-за залішняй сухасці ў грамадстве. Мабыць, пад яе ўплывам розум у чалавека сціскаецца і, такім чынам, карацее шлях нервовых імпульсаў, значыць, нервовыя сувязі скарочваюцца на адэкватную даўжыню. У гэтым выпадку гэтыя імпульсы праходзяць праз мазгавыя гангліі, што прыводзіць да памяншэння нашай асобы.

Кожны салдат носіць у заплечніку маршальскую булаву. Кожны носіць у сабе веліч. Але гэта становіцца нябачным для чалавечых вачэй, нават нашых уласных. Але нервовыя імпульсы ўпарта даказваюць, што мы існуем. Яны выяўляюцца ў выглядзе скатом у вачах. Многа іх. Толькі што «многа» гэта зусім іншая якасць, чым памер.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Святкуйма разам 25 Сакавіка

Паважаныя чытачы «Нівы»! Наша рэдакцыя ўжо звыш шэсцьдзясят гадоў спадарожнічае не толькі беларускаму жыццю ў Польшчы, але і беларускасці раскінутай па ўсім свеце. Там, дзе ёсць адчуванне нашага роднага, беларускі тыднёвік з Беластока заўсёды хацеў пабываць, або апісаць падзеі пяром сваіх карэспандэнтаў. Калі гартаю падшыўкі газеты канца пяцідзясятых-шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя і памятаю пра выдавецкі цыкл, які цягнуўся некалькі тыдняў, яшчэ больш усведамляю сабе аграмаднае запатрабаванне на пісанае слова на роднай мове. Слова было важнае ўсім праслойкам тадышняга нашага грамадства: селяніну, рабочаму, інтэлігенту. З «Нівай» беларусы ў Польшчы зразумелі, што яны — не толькі жменька пакінутых і адрэзаных жалезнай заслонай абарыгенаў. Яны былі ў змозе па-свойму глядзець на свет і апісаць яго не толькі ў публіцыстычным жанры, але і навуковым ды літаратурным. Той менавіта феномен самаадукацыі і спазнавання старонак беларускай гісторыі і літаратуры выконваў, найкарацей кажучы, функцыю народнага ўніверсітэта. Дасканала ведаю, што былі тады забароненыя тэмы і цэнзарскія нажніцы. Але такое было ва ўсёй тадышняй прэсе — польскай і іншых нацыянальных меншасцей. На іх фоне колькасць і якасць апублікаваных журналісцкіх матэрыялаў, памінаючы тэксты прысвечаныя тадышняму палітычнаму жыццю, не з’яўляецца прычынай да сораму, толькі радасці ад абнародавання скрываных і замоўчваных тэм з беларускай даўніны. Хачу згадаць адно: то «Ніва» і з «Нівай» адбылося адкрыванне і запісванне лёсаў нашай беларускай нацыянальнай меншасці ў 1915-1956 гадах. Калі чытаеш ніўскія кніжныя выданні пра той поўны трагічных здарэнняў перыяд, то жахлівыя вобразы не дазваляюць заснуць ці бестурботна засмяяцца праз нейкі час.

Некаторыя справы запісваліся ці згадваліся ўскосна, таму вялікі пласт, асабліва палітычнай актыўнасці беларусаў Беласточчыны ў іншых, чымсьці лева-камуністычнага ўхілу арганізацыях, не ахоплены і не апісаны пашырана нашай рэдакцыяй у мінулым. А такія падзеі былі ў нашай гісторыі і то з актыўным удзелам падляшскіх беларусаў. Несумненна, такой яркай, замоўчанай і прысуджанай на забыццё справай была аб’яўленая сто гадоў таму назад, у сакавіку 1918 года Беларуская Народная Рэспубліка. Акт 25 Сакавіка 1918 года нам, нашчадкам удзельнікаў той падзеі, дае поўнае маральнае і палітычнае права стаяць як роўны з роўнымі з іншымі еўрапейскімі народамі, якія вельмі дастойна будуць адзначаць сваю круглую дату. Пад’ём нашых продкаў — гэта таксама і гістарычны запавет, ускладзены на нас. Ідзе пра тое, каб больш ніколі не дапусціць да вымазвання нас як палітычнай і гістарычнай нацыі з цяперашняй і будучай памяці пакаленняў. Тут працы хапае для нас усіх, каму званне беларус не з’яўляецца пустым словам. Школы, медыя, самаўрады, установы культуры гэта таксама месцы, дзе тая дата павінна адзначацца.

Важнасць угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі будзе прысутная і на старонках «Нівы». Наш беларускі каляндар, які будзе спадарожнічаць нам цягам наступнага года, цалкам прысвечаны гэтай падзеі. Прыгадваем на ім самае важнае для той эпохі: герб, гімн, сцяг і ўрад, які ачоліў ураджэнец нашай Кузніцы-Беластоцкай Язэп Варонка. З другога боку календара маем партрэты і прозвішчы выбраных дзеячаў, якія стаялі за вытокамі БНР, ці яе потым абаранялі. Варта адвесці сабе хвіліну часу і пра ўсіх іх пашукаць звестак у інтэрнэтнай прасторы. Пра многіх ураджэнцаў Падляшша мы напішам і распавядзем цягам года. Але гістарычная самаадукацыя гэта таксама адзін з нашых абавязкаў перад нашчадкамі і будучымі пакаленнямі. Асабліва зараз трэба памятаць, што без уласнай гістарычнай памяці чужыя жорны гісторыі пастараюцца перамалоць нас у пыл і прах. Таму адказнасць за мінулае з надзеяй на лепшую будучыню павінна нас таксама ядналь у адчуванні і перажыванні супольнасці лёсу беларусаў. А тую векапомную дату 25 Сакавіка 2018 года, якая прыпадае на нядзелю, давайце правядзем разам у Беластоку на ўрачыстых святкаваннях. З юбілеем і да сустрэчы!

Яўген ВАПА

# Гісторыя беларусаў Падляшша

## у Гайнаўцы

**Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы і Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы арганізавалі дзве**




**прамоцыі кнігі «Гісторыя беларусаў Падляшша», выдадзенай Беларускім гістарычным таварыствам. Яго старшыня, навуковы працаўнік Універсітэта ў Беластоку прафесар Алег Латышонак падчас абедзвюх сустрэч распавядаў пра змест выдання аб нашай гісторыі.**

■ Прафесар Алег Латышонак

Прафесар Алег Латышонак 20 лістапада спаткаўся з вучнямі Гайнаўскага белліцэя ў школьнай чытальні, а сустрэча з гайнаўнянамі ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае» адбылася 30 лістапада ў кіназале Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. У белмузеі з уводным словам выступіў настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Ян Карчэўскі. На спатканне прыйшлі асобы, якія цікавяцца гісторыяй, адукацыяй і культурным жыццём беларусаў прыпушчанскага рэгіёна, у прынцыпе ўдзельнікі беларускіх мерапрыемстваў арганізаваных у Гайнаўцы. Кніга «Гісторыя беларусаў Падляшша» — калектыўная праца. Аўтарамі паасобных раздзелаў з'яўляюцца Пётр Хомік, Лена Глагоўская, Славамір Іванюк, Алег Латышонак, Яўген Мірановіч, Збігнеў Місюк і Генадзь Семянчук. Выданне выйшла ў пачатку гэтага года, але яе прамоцыя па-за Беластокам адбылася раней толькі ў Орлі. Выказванні прафесара Алега Латышонка сабраныя выслухалі з вялікай зацікаўленасцю. Удзельнікі сустрэчы заўважылі, што жыццё беларусаў Падляшша не апісвалася дагэтуль так падрабязна, а да таго ў адным выданні.

У дзевяці раздзелах на амаль 540 старонках побач змястоўных артыкулаў аб гісторыі беларусаў Падляшша, якая сягае ў глыбокае мінулае, змешчаны многія здымкі, рысункі, карты і плакаты, якія ўзбагачаюць выданне і заахвочваюць да прачытання. Апісаная ў кнізе гісторыя сягае перыядаў палеаліту, мезаліту, неаліту і сярэдневякоўя. Багата апісаны час Вялікага Княства Літоўскага, перыяд 1764-1914 гадоў, абедзве сусветныя войны, міжваенны перыяд, час Народнай Польшчы і апошні перыяд ад 1989 да 2015 года.

— Людзі нас пытаюць, чаму мы пачалі ад каменнага веку і так многа месца адвялі перыядам палеаліту, мезаліту, неаліту і пасля сярэдневякоўя. Мы хацелі паказаць, што на нашай зямлі ад вякоў жылі людзі і яны ў асноўным з'яўляюцца нашымі продкамі. Былі створаны карты са стрэлкамі, на якіх паказваюцца напрамкі, з якіх мелі прыйсці і пасяліцца на нашай зямлі жыхары суседніх тэрыторый. Мы тлумачым, што такія перамяшчэнні людзей былі, але яны толькі папаўнялі асноўнае насельніцтва тэрыторыі сённяшняга Падляшша, якое тут жыло ад намнога даўнейшага часу. Крыжаносныя і іншыя паходы на Падляшша не былі шматлікімі і не маглі спрычыніцца да знішчэння карэннага насельніцтва на нашай тэрыторыі, — распавядаў у белмузеі прафесар Алег Латышонак. — У мінулым людзі жылі таксама на тэрыторыі, дзе зараз распалажана Белавежская пушча, аб чым сведчаць праведзеныя там раскопкі. У вёсцы Малочкі падчас раскопак было намечана круглае месца, абведзенае насыпам. Мясцовыя людзі называюць яго Лысай гарой, а так называліся паганскія капішчы. Відаць, гэтая назва перақазвалася з пакалення ў пакаленне і дайшла да нашых часоў, а пры гэтым цэлы час жылі там людзі. Цяпер археолагі падчас раскопак пацвердзілі, што там сапраўды ў XI стагоддзі было паганскае капішча.

У кніжцы апісваюцца гарадзішчы перыяду ранняга сярэдневечча ў Драгічыне, Бельску-Падляшскім, Гарадку і многіх іншых мясцовасцях на тэрыторыі сённяшняга Падляшша. На падставе апошніх раскопак вядома больш пра гарадзішча каля Збуча, дзе цяпер ладзяцца археалагічныя фэсты.

У XVI стагоддзі польскія географы і гісторыкі пачалі называць «Белай Руссю» ўсе рускія тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, хаця ядро «Белай Русі» знаходзілася на ўсходзе гэтай краіны, над Дзвіною і Дняпром... Назва «Беларусь» у сённяшнім разуменні гэтага слова стала прымяняцца ў перыяд Студзеньскага паўстання, прычым спасылаліся на яе як паўстанцы, так і прыхільнікі Расіі. У кнізе «Гісторыя беларусаў Падляшша» згадваецца таксама, штоназванне «Белая Русь» паяўляецца ўжо ў палове XIII стагоддзя як *Alba Ruscia*, а імя «белыя русіны» ўпамінаецца ў пачатку XIV стагоддзя ў «Жыцці святой Кінгі».

— Аб сярэднявеччы на нашых тэрыторыях не пісалася і таму так важнымі ў нашай кнізе з'яўляюцца інфармацыі аб гэтым перыядзе. Мы хацелі паказаць, што ў гэтым часе на нашай зямлі жылі людзі, — гаварыў Алег Латышонак, распавядаючы пра перыяды сярэдневякоўя, Вялікага Княства Літоўскага, з улікам зямель Падляшша, і пазнейшы час. — Я не прыхільнік величання Кастуся Каліноўскага. Расіяне пасля Студзеньскага паўстання поўнасцю вывелі з народных школ беларускую мову, а школьныя «Расказы на беларускім нарэччы» апошні раз былі выдадзены ў 1864 годзе. З гэтай пары аж да канца стагоддзя беларуская мова ў школах была непрысутнай.

Алег Латышонак сказаў, што ў пачатку XX стагоддзя Беласточчына адыгрывала вялікую ролю ў працэсе стварэння беларускай нацыі і ў гэтым плане станоўча вылучылася Гайнаўшчына.

— На тэрыторыі сённяшняга Гайнаўскага павета больш чым сто гадоў таму арганізаваўся вельмі моцны беларускі нацыянальны рух. Яго піянерамі былі Яўген Хлябцэвіч у Клейніках, Іван Краскоўскі ў Дубічах-Царкоўных, — распавядаў прафесар Алег Латышонак. — На Беласточчыне беларускі рух стаў моцным, але ў пачатку XX стагоддзя лёс нашай зямлі вырашаўся без мясцовага насельніцтва, якое было ў бежанстве. Пасля вяртання з бежанства людзям прыйшлося адбудоўваць усё амаль з нуля, а многія не вярнуліся. Таму я лічу бежанства самай вялікай трагедыяй беларусаў Беласточчыны. Калі паўстала Беларуская сялянска-работніцкая грамада, у хуткім часе запісалася да яе каля 120 тысяч беларусаў. Быў гэта мірны рух, які не прадбачваў змагання за беларускія справы сілай, толькі імкнуўся мірным шляхам дабівацца рэалізацыі сваіх патрабаванняў. Калі саветы ў 1939 годзе ўвайшлі на Беласточчыну, сталі вывозіць у Сібір яўрэяў, палякаў, рыхтаваліся таксама вывезці беларусаў з Беласточчыны, але ў чэрвені 1941 года на нашы тэрыторыі ўвайшлі нямецкія войскі. Нямецкі тэрор спасціг усіх, але беларусы Беласточчыны ў час Другой сусветнай вайны пацярпелі намнога менш, чым падчас бежанства.

У кнізе апісаны перыяд Народнай Польшчы, палітычная, грамадская і культурная дзейнасць беларусаў пасля 1989 года, наш арганізаваны ўдзел у самаўрадавых і парламенцкіх выбарах у РП. Алег Латышонак расказаў пра выдавецкую дзейнасць беларусаў з 1956 года, пра дзейнасць БГКТ, гаварыў пра творчую спадчыну пісьменнікаў, згуртаваных у літаб'яднанні «Белавежа». Госць сустрэчы напомніў пра дзейнасць заснаваных у канцы васьмідзясятых і ў дзевяностых гадах шматлікіх беларускіх арганізацый, частка якіх згуртавалася ў Беларускі саюз у РП. Беларусы Беласточчыны выдалі многа беларускіх кніжак, стварылі Беларускае Радыё Рацыя і, канешне, арганізавалі Беларускае гістарычнае таварыства, якое і выдала «Гісторыю беларусаў Падляшша». Разгарнулася навучанне беларускай мове ў прадшколлі і школах Беластока, у прадшколлях Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і надалей працягваецца ў школах Бельскага, Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў, аб чым можна прачытаць у новым выданні. Кніга канчаецца інфармацыямі аб рэлігійным жыцці беларусаў.

Прафесар Латышонак раздаў усім сабраным у белмузеі шыкарнае выданне «Гісторыя беларусаў Падляшша». Дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубічах Мірaслава Маеўская-Іванюк звярнула ўвагу на змястоўнасць выдання.

— У кнізе «Гісторыя беларусаў Падляшша» многа важных інфармацый на тэму нашай гісторыі, якая павінна зацікавіць людзей у розным узросце. Добра, што гэтая кніга багата ілюстраваная. Можна будзе яе выкарыстаць таксама на ўроках, — сказаў настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Ян Карчэўскі.

Былы настаўнік гісторыі белліцэя Яўген Янчук звярнуў увагу на вялікую колькасць інфармацый, датычных усіх перыядаў нашай гісторыі, якія сведчаць, што продкі беларусаў жылі на Падляшшы здаўна. Свае заўвагі наконт зместу кнігі «Гісторыя беларусаў Падляшша» выказаў таксама старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы Мікола Бушко.

— Гэта жанчыны з Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі якія вывучаюць беларускую мову «АБ-БА» ў Беластоку мабілізавалі нас напісаць кніжку пра гісторыю беларусаў Падляшша. Каб пакарыстацца сродкамі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, прызначанымі на выданне кнігі, гэтую задачу трэба было нам выканаць на працягу года. Як на так аб'ёмістае выданне, час на падрыхтоўку кніжкі да друку быў кароткі. Маглі паявіцца недакладнасці, якія будзем выпраўляць перад выданнем «Гісторыі беларусаў Падляшша» па-беларуску, — удакладніў прафесар Алег Латышонак.

Госць сустрэчы сказаў, што прыблізна паўтара мільёна жыхароў Рэспублікі Беларусь, як мяркуецца, размаўляе на беларускай мове і ўзровень беларускасці ў Беларусі мае і будзе мець вялікае ўздзеянне на беларускую нацыянальную свядомасць нашага насельніцтва.

Нягледзячы на адмоўную дэмаграфію, да беларускага руху на Падляшшы надалей далучаюцца маладыя людзі. Надалей паяўляюцца маладыя паэты, якім больш даспадобы пісаць па-беларуску, чым папольску. Таму можна чакаць, што беларускасць ператрывае, хаця не так інтэнсіўна перажываная, як у канцы васьмідзясятых гадоў і на працягу ўсіх дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, — пішацца ў кніжцы «Гісторыя беларусаў Падляшша».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Са смеццем... у лес

Могілкі ў Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета знаходзяцца побач ваяводскай дарогі № 687 ды пры сасново-бярозавым лесе. На могілках стаяць два вялікія і чатыры-пяць меншых кантэйнераў для смецця (на сухія галінкі, лісце, зелле ды на выкарыстаныя лампадкі). Кантэйнеры ёсць, а — як я заўважаю — жанчыны выносяць смецце праз дарогу ў лес.

Аднойчы зрабіў я заўвагу адной жанчыне з Новага Ляўкова ды другой з суседняй вёскі, што так нельга рабіць, бо яны забруджваюць лес. Стаяць жа кантэйнеры для смецця! Адна сказала, што калі нехта перад ёю выкідае смецце ў лес, то чым яна горшая. Другая мне сказала: «То няхай тут паставяць кантэйнер, то буду ўкідаць у яго апалае сухое лісце або дробныя шкляныя пасудзіны». Вось табе на. А мо найлепш было б забіраць дробны друз проста ад яе з рук і занесці ў кантэйнер. Давай сюды валанцёраў, каб за кожным хадзілі.

Варта дадаць, што нічога сабе гурба смецця і зараз ляжыць пры самой дарозе ў агратурыстычную кватэру «Бора-здруй» у Новым Ляўкове. Яно ёсць і далей, у кустах, у ямках. Едучы, брыдка глянуць у той бок. А што пра нас падумаюць турысты?

Вышэйзгаданых жанчын так і не пераканаеш, што яны робяць дрэнна, бо носяць смецце ў лес. Відаць, што не маюць добрых навыкаў, бо сілы ім хапіла б прайсці раптам пару дзясяткаў метраў да кантэйнера на могілках каля капліцкі. Яны ўжо пенсіянеркі і ім нікуды не трэба спяшацца. Як мне вядома, абедзве яны жывуць у сваіх хатах самотна, свабоднага часу ў іх, як кажуць, хоць адбаўляй. Менш бы ім кожны дзень глядзець тэлесерыялы, а то менавіта імі галаву сабе «набіваюць». Кожная з іх кажа, што ёй зараз цяжка хадзіць, бо ногі баляць. Адна з іх шмат гадзін, так мовіць, «вісіць» на сваім тэлефоне. Вельмі любіць збіраць плёткі, скажаць іх, нешта фальшывае дадаючы ад сябе (у тым яна вось майстрыха!) і пускаць далей на канвеер, на канвеер.

Са смеццем з магілак ніводная з іх не падыдзе колькі там крокаў да кантэйнераў. Падрабязней — а варта было б і дэталёва — я не напішу пра іх, бо добра ведаю, будуць злаваць на мяне і шукаць нагоды, каб нейкім чынам адпомсціць. Адна з іх заўсёды чытае ўсе мае допісы ў «Ніве». Прагледзіць газету ў той ці іншай нараўчанскай прадуктовай краме, але роднага часопіса не купіць. Справядліва будзе, калі напішу, што, мабыць, купіць «Ніву» з беларускім календаром на 2018 год. І толькі адзін раз у год.

## У Гайнаўцы

У суботу і ў нядзелю ў Гайнаўцы рэдка ездзяць аўтобусы гарадской камунікацыі на лініі нумар 2 з чыгуначнага вакзала ПКП на канец вуліцы Ліпавай да шпіталя. Да таго яшчэ ў гэтыя дні ездзяць яны толькі ад гадзіны 7 да 15 і на сярэднім адрэзку гэтай лініі яны едуць іншымі вуліцамі чымсьці ў дні ад панядзелка да пятніцы. Хто будзе чакаць аўтобуса на прыпынку ля скрыжавання вуліц Баторыя і 11 Лістпапада, той не дачакаецца.

Прыехаў я міжгарадскім аўтобусам у Гайнаўку ў суботу а гадзіне 8.20. На аўтобус да шпіталя трэба было чакаць да гадзіны 9.32. Пайшоў пешшу. З вуліцы Баторыя ў канец Ліпавай тры кіламетры. А як прыйшлося б каму ісці з кулясамі. Па дарозе (ішоў вуліцамі 11 Лістапада і Ліпавай) шукаў запушчаных і неабжытых панадворкаў. Знайшліся такія і зайшоў на адзін з іх за дробнай фізіялагічнай патрэбай. На маё шчасце тут раслі густыя кусты бэзу.

Я павінен дадаць, што ў Гайнаўцы няма агульнай прыбіральні для ўсіх. У выхадныя дні з гэтай вышэйзгаданай справай трагедыя. Зараз у гэтым адносна вялікім горадзе няма вакзала ПКС, а будынак чыгуначнага вакзала ПКП закрыты наглуха і цяпер няма адкрытых прыбіральняў. Установы ў выхадныя не працуюць. Улады горада такімі «дробнымі» справамі, па ўсім відаць, не займаюцца. А павінны. Раней была прыбіральня ў цэнтры горада побач скрыжавання вуліц 3 Мая і Баторыя. Тут блізка малы базар. І ўсім выгадна было ды асабліва прыезджым. **(яц)**

# Асалода жыцця

**Беласточчына багатая на тых, якія ўласнымі рукамі, пры выкарыстанні натуральнай сыравіны ды адносна невялікім коштам ствараюць асаблівыя і выдатныя вырабы. Маем майстроў па пляценні каробак, кошыкаў (функцыянальнасці ды трываласці якіх хапае на доўгія гады), па саломапляценні (з чаго паўстаюць між іншым спецыфічныя аздобы падляшскіх дамоў), але ёсць і тыя, дзякуючы якім прачынаюцца да жыцця нашы жываты. На абязлюдзелых вёсках Беласточчыны жывуць людзі, якія застаюцца вернымі старым, добра праверaным рэцэптам і рыхтуюць усялякага роду мясныя стравы, ёсць сапраўдныя чэмпіёны па бульбяной бабцы ды іншых стравах, дзе асноўным інгрэдыентам з'яўляецца легендарная палявая культура беларусаў — бульба. Урэшце, памятаючы што меню ў частых выпадках складаецца таксама з салодкасцей, нельга не адзначыць каравая, які суправаджае розныя жыццёвыя падзеі. Каб яшчэ глыбей увайсці ў салодкую спецыфіку гэтай падляшскай стравы, падаўся я ў Краснае Сяло, каб там сустрэцца з Валянцінай Марціновіч — кулінарнай майстрыхай, пад рукамі якой больш за 20 гадоў фарміруюцца караваі.**



— У маладыя гады, калі я яшчэ жыла ў Градалях, у нашай сям'і мама не выпякала караваяў. Так асабліва склалася, што толькі калі я пераехала жыць у Краснае Сяло, пачала цікавіцца гэтым відам выпечкі. Жывучы ў вёсцы, мы — жанчыны — неаднойчы праводзілі час на лавачцы. Там вяліся гутаркі на розныя тэмы. Даволі часта чула я расказы суседкі, пакойнай Марыі Юзючук, пра караваі. Яна ўспамінала вясельныя традыцыі. Прыкладна, калі старэйшая «сванька» ішла да кагосьці святкаваць вянчанне, яна абавязкова мусіла прынесці каравай. Калі я была яшчэ падлеткам, з мамай пайшла на вяселле. Тады ў іншых сёлах падчас такіх урачыстасцей было «пэрэпіванне», а ў нас — «спожэніе». Калі госці крыху з'ядуць і вып'юць (але не надта многа), прыходзіць вясельны аркестр і ўсе пачынаюць спяваць песні на «спожэніе» маладой. Пазней збіраюць цэлую закуску са стала і засцілаюць яго свежым абрусам, прыгожай хусткай і ставяць там міску. З аднаго боку стала стаўляюць хлеб, а з другога — каравай, спяваюць далей песні і кідаюць грошы, хто колькі можа, у міску. Пазней, калі ўжо маладыя прыедуць са шлюбу, да іх падыходзяць бацька маладой — з гарэлкай і двума кілішкамі, ды яе маці — якраз з караваем. Так як сёння падчас вяселляў кідаюць цукеркі, а малышы — вось такія як я тады — хапаюць іх, таксама тады згаданая раней сванька выходзіла з хусткай поўнай кавалачкаў каравая і выпускала іх у прастору, а мы такім чынам атрымлівалі свае салодкасці, нашы тагачасныя «цукеркі». Тут нават складана знайсці словы, якія б апісвалі смакату тых кавалкаў цеста.

Каравай Валянціны Марціновіч гэта не проста звычайнае высокае і аб'ёмістае піроўнае. Кулінарная майстрыха, калі займаецца выпяканнем каравая, прыдумвала таксама і розныя каравайныя кампазіцыі. Варта згадаць, што тая ж салодкая страва не патрабуе нейкіх мудрагелістых кампанентаў:

— Перш за ўсё мусіць быць мука. Гэта дражджавое цеста, таму і лепш, каб мука была ў меру цёплая, не можа быць зімная, прынесена з халоднай каморы. Патрабуюцца таксама малако, дрожджы. Сыплю муку ў міску, крыху салю яе, у сярэдзіне раблю ямку, туды кідаю дрожджы, цукар і лію малако. Пазней пачынаю ўсё тое перамешваць і дабаўляю масла, разынкі ды яйкі. Колькасць яек залежыць ад колькасці мукі, але наогул даю 10 яек — 5 жаўткоў ды 5 цэлых яек. Калі ўсё добра перамяшаю, астаўляю больш-менш на гадзіну. Пасля на бляхі накладваю цеста, бывае што на дзве — калі атрымаецца яго больш. Трэба, каб размешчаная ў бляхах маса падрасла. Каб атрымалася, трэба ўставіць у печку. Заўжды распальваю адным відам дрэва. Я чула, што паляць, напрыклад, альшынай, я аднак распальваю хваінай, якую рыхтуе мой муж. Калі цеста над агнём ужо падыдзе, з таго самага цеста выплятаю кругом з трох валікаў коску, а на сярэдзіне раблю выявы птушак — сімвал маладых, якія бяруць шлюб. І тое далей пячэцца. Бывае, што бяру цеста, якое ў другой бляхе, і абвіваю ім галінкі дрэва і запякаю.



З самага пачатку кандытарскай дзейнасці Валі Марціновіч з-пад яе пальцаў і з печкі выйшла прынамсі 50 караваяў. Як лічыць, на працягу больш чым 20 гадоў па-рознаму выглядала зацікаўленасць гэтым вырабам:

— Быў нават такі момант, што караваяў не выпякалі. Наступіў тады перыяд, калі папулярнымі сталі новыя віды здобнага цеста, прыкладна з крэмамі, жэле ды ўсялякімі іншымі элементамі, ды тарты. Аднак надышоў, можна сказаць, перелом, недзе ў 1990-я гады. Хіба гэта пачалося з Дарафея Фіёніка, які заказаў у мне каравай на свой шлюб. Іншым разам, калі меў жаніцца Алег Латышонак, таксама захацелі мой выраб. Тады я так жартавала, што калі Алегу патрэбны каравай, значыцца трэба спячы самае высокае цеста, паколькі сам заказчык высокага росту. І, відаць, людзі перадавалі адзін другому, што я займаюся нашым рэгіянальным прысмакам, бо пачалі кантактаваць са мною чарговыя кліенты. Зразумела, гэта былі людзі з ваколіц Бельшчыны ды Гайнаўшчыны, але не толькі. Аднойчы патэлефанавала мне жанчына з Беластока. Вяселле яе дачкі мела адбыцца ў Кракаве. І што цікава, акрамя майго вырабу яна заказала іншыя тыпы здобнага цеста ў трох розных мясцовасцях. Дадаткова яна яшчэ заказала такія кавалачкі каравая, якія мелі быць гасцінцам для кракаўскіх гасцей. Мае караваі дагэтуль прызначаліся не толькі на вясельныя ўрачыстасці. Альжбета Фіёнік прасіла спячы каравай на патрэбы спектакля, які паказвала са сваімі акцёрамі. Таксама калі сёлета ў Польшчы праходзіла Нацыянальнае чытанне «Вяселля» Станіслава Выспянскага, падчас падзеі ў Гарадской публічнай бібліятэцы ў Бельску на стале стаяў каравай менавіта маёй выпечкі.

Майстрыха з Краснага Сяла дзялілася таксама сваімі ўмелацямі з маладым пакаленнем. Правесці майстар-класы па выпечцы каравая ў Падляшскі музей народнай культуры запрашаў яе дырэктар установы Артур Гавел.

— Майстар-класы наогул адбываліся перад праваслаўным Благавешчаннем. Хіба 3 або нават 4 гады запар цэлы тыдзень я сустракалася там з маладымі людзьмі рознага ўзросту — ад малышоў да моладзі. Канешне, я там паказвала як пячэцца каравай, але таксама навучала падрыхтоўцы «буслявых лапаў». Паколькі ўсе тыя вырабы салодкія, дзеці, а найбольш малышы, з вялікім апетытам елі і з не меншай ахвотай пяклі падляшскія прысмакі.

Я люблю даўнейшыя, традыцыйныя вырабы, прыкладна падляшскія ручнікі, макаткі. Таму напэўна і выпяканне караваяў ды іншага рэгіянальнага здобнага цеста я перш за ўсё ўспрымаю як зберажэнне ад забыцця нашых народных асаблівасцей — у гэтым выпадку кулінарных.

Пасля сустрэчы са спадарыняй Валяй і размовы пра каравай і яго спецыфіку, прыйшла мне ў галаву думка, мабыць фантазійная візія. Паколькі ў капіталістычным ладзе паўстаюць новыя або развіваюцца ўжо існуючыя агульнапольскія сеткі крамаў, тады можа і своеасаблівай «асалодай жыцця» для іх кліентаў з іншых раёнаў Польшчы і не толькі сталі б салодкія вырабы падляшскай майстрыхі? Можа дома побач з «марцінкамі» ды «снікэрсамі» знайшлося б і месца на праверaны, цэнены заказчыкамі ды дзецьмі каравай з Краснага Сяла?

Тэкст і фота
**Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**


Сафія Клімовіч, Леакадыя Клімовіч, родныя сёстры Ізыдара Клімовіча. Усярэдзіне праўдападобна сам Ізыдар Клімовіч.

# Бацькаўшчына Ізыдара колеру зямлі

Культурна-этнічная тоеснасць зямель распаложаных паміж рэкамі Нёман, Бобра, Нарва і Свіслач — гэта тэрыторыя, лёсы і людзі, якіх найчасцей апісваю на старонках «Нівы». Гэтая краіна, якую поўнасцю акрэслівае яе гістарычная назва, Чорная Русь, нягледзячы на сваё вялікае багацце і гістарычную спадчыну, у штодзённай свядомасці не існуе. Гэтае ж самае можна сказаць пра яе жыхароў. Тым часам, каб зразумець чарнарускую натуру, трэба спачатку зразумець гістарычны кантэкст, а перш за ўсё яе своеасаблівасць. Чарнарус звычайна ўспрымаецца як горшы прадстаўнік іншых, большых супольнасцей. Яго краіну разарвала арбітральна праведзеная ў 1945 годзе польска-савецкая мяжа. Ад пачатку XX стагоддзя Чорная Русь знаходзіцца на тэрыторыі трох дзяржаў: Рэчы Паспалітай Польшчы, Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі.

Тыя ж самыя чарнарусы па адным баку мяжы сталі быць замала польскія, становячыся беларускай меншасцю, а па другім баку — замала савецкія, становячыся польскай меншасцю. Тым не менш беларусы Падляшша, якія ў большасці з'яўляюцца праваслаўнымі па веравызнанні, нягледзячы на значны ўклад беларусаў каталікаў у нацыянальны рух, не прызнаюць іх да канца за «сваіх».

У Польшчы часта гаворыцца нават пра «беларуска-праваслаўную меншасць». З іншага боку таксама ў сваім Касцёле чарнарусы не могуць разлічваць на падтрымку для сваёй супольнасці, якая для палякаў з'яўляецца натуральнай. Рыма-каталіцкі касцёл на «ўсходняй сцяне» не захоўвае нейтральнасці ў этнічных пытаннях, але паслядоўна (ужо як даваенная Віленская мітраполія) патрабуе ідэнтыфікаваць каталіцызм з польскамоўнасцю. Жыхары Чорнай Русі, католікі, якія ў хатах гавораць «па-просту», значыць на дыялекце беларускай мовы, у выніку зазнаюць падвойнага/патройнага выключэння.

Родны брат маёй бабулі, якая частку свайго жыцця пражыла ў Гародні, да канца жыцця меў давер да Касцёла. Менавіта ён з Вільні вазіў матэрыял на пабудову падпаленай капліцы на хадароўскіх могілках. Штотыдзень Ізыдар Клімовіч, які пражыў 100 гадоў (1908 года нар.), амаль да канца жыцця пісаў вершаваныя і гістарычныя занатоўкі, яго ўспаміны па Вільні, Гародні і насіў менавіта да мясцовага ксяндза. Нягледзячы на накінутую касцельна-польскую мову, дзед не мог адкінуць таго, чым прасякнуў. Будучы дзіцём я не разумела ўсіх характэрных знакаў, якія стаўляў над c, s, z, dz, u. Пісаў па-польску, выкарыстоўваючы беларускую лацінку.

A ja że takich nauk nie posiadam
bo byłby takim poeto
jak mickiewić adam
narodzenia PJezusa w nocy
gdyby gospodarz wypędził
to niespełniło się co muwili prorocy
SJ drzwi trzyma ażeby osełek z chlewa
gospodarz zobačy to się zagniewa
zjadł osełek siano co nanoc podano
gołe deski


Сын сястры Ізыдара Сафіі, Юзэф у час сенакосаў

cierpi ciało
a na krzyžu ješcze gorzej bolało
a žeby mogli do egiptu przyjść doktory
patrzo
žadnych nauk nie posiadał
a tak ładnie gadał
(...)
Chądząc przez 3 lata ludzi naučał
nikomu nie dokučał
latem chleby rozmnažał
a zimą w božnicach kazanie głosił
syna umarłego wskrzesił
rodziców pociešył
člowieče Boga się boj
przykłasz ręce do pługa
ač co ryby łowili
do Boga sie modlili.

Ізыдар Клімовіч цэлае жыццё прысвяціў працы на гаспадарцы. Хаця кавалер, напачатку дапамагаў свайму бацьку, пазней свайму брату, а пазней сястры, маёй бабулі, якая рана патраціла на 20 гадоў старэйшага мужа. Так як каталіцкі патрон сялян, святы Ізыдар, цэлае жыццё працаваў на зямлі і для зямлі.

Чарнарусы, нягледзячы на адсутнасць падтрымкі з боку дзяржаўнага апарату, рэлігійнай супольнасці, а нават актывістаў нацыянальнай меншасці, па-ранейшаму адчуваюць сябе часткай, разарванага напалову мяжой, гістарычнага рэгіёна, са сваімі традыцыямі, мовай, гісторыяй і ідэнтычнасцю.

Багацце Чорнай Русі — гэта нязвыклая пасія да ледавіковых камянёў (гэтыя камяні, як і ўзгорысты пейзаж, выразна адрозніваюць Чорную Русь ад распаложанага за Нарвай Падляшша), сфармаваны на працягу стагоддзяў мясцовымі гаспадарамі тып халаднакроўных коней, ці, нарэшце, арыгінальнае мясцовае мастацтва, дзякуючы якому па сённяшні дзень адчуваецца настальгія па даўніх часах, калі гэтую зямлю не падзялялі засекі з калючага дроту, а Дуброва-Беластоцкая была Дубровай-Гродзенскай.

Гэтая невялікая, але ўсё-такі выразная своеасаблівасць стварае ненахабную тоеснасць і пачуццё прыналежнасці чарнарусаў. У кантэксце сучасных глабальных палітычна-сацыяльных пераўтварэнняў лёс жыхароў гэтага невялікага гістарычнага мікрарэгіёна можа служыць прыкладам таго, як у складаных знешніх умовах, магчымае, дзякуючы пачуццю рэгіянальнай і этнічнай супольнасці, аўтэнтычнае захаванне пачуцця сэнсу ўласнай тоеснасці і культуры.

Варта паказваць цэлую Чорную Русь, нягледзячы на мяжу, якая яе перасякае. І перш за ўсё варта прыглядзецца людзям, якіх захапленні генераваліся гэтым канкрэтным рэгіёнам, якія без падтрымкі... засталіся сабою.

З ліку трох краін, у якіх межах знаходзіцца Чорная Русь, кожныя дзве маюць з сабою нешта супольнае: толькі Літва і Польшча з'яўляюцца членамі Еўрасаюза, толькі Беларусь і Літва з'яўляюцца былымі савецкімі рэспублікамі, толькі Беларусь і Польшча — славянскія. Чарнарусы ў гэтай цэлай катавасіі захоўваюць аўтэнтычнасць, натуральнасць і дзікасць. Напэўна пры набліжаючыхся Калядах загавораць па-просту пры святочным абедзе. Усім чытачам «Нівы» жадаю такіх святаў, да якіх падрыхтаваліся. Майму дзеду Ізыдару — такога неба, якое сабе вымаліў і ўявіў.

Bóg w niebie nie ma roli
chce a žeby člowiek na ziemi žył z B woli
w niebie około blisko Boga apostołowie
święci męčennicy
pośrodku błogosławieni rolnicy

Уля ШУБЗДА



Месца апошніх гадоў пражывання Ізыдара Клімовіча.





## Будуць чарговыя электрагенератары ў Арлянскай гміне

28 лістапада 2017 года на супольным пасяджэнні дзвюх камісій (самаўрадавай і бюджэтнай) Гміннай рады ў Орлі адбылася сустрэча з прадстаўнікамі фірмы Vortex Energy са Шчэціна — Гжэгажам Гаўрыхам і Мацеем Мадэцкім. Фірма прымяркоўваецца да пабудовы ў Арлянскай гміне трох ветравых турбін (у гміне дзейнічае ўжо 15 ветравых турбін, пабудаваных іншай фірмай). Госці ў ходзе мультымедыйнай прэзентацыі расказвалі пра паступовыя этапы пабудовы. Была нагода ставіць пытанні, якою я пакарыстаўся.

З адказаў радныя даведаліся, што фірма будуе крыху іншыя ад ранейшых ветракі. На тэрыторыі Арлянскай гміны дамінуюць ветракі вышынёю каля 150 метраў кожны, а гэтая фірма стаўляе ветракі пад дзвесце метраў вышыні і такія маюць паявіцца ў полі за Орляй у бок Рудут. Я пацікавіўся, ці ёсць яшчэ большыя, і ў адказ пачуў, што ёсць вышэйшыя за 200 метраў, а ў стадыі выпрабаванняў аб'екты трохсотметровыя.

Закон ад 20 мая 2016 года аб інвестыцыях у галіне ветравых электрагенератараў патрабуе, каб турбіна была аддалена ад найбліжэйшых жылых збудаванняў сама менш на адлегласць у дзесяць разоў большую за яе вышыню ўключна з ротарам і лопасцямі.

Пацікавіўся я, ці ёсць зацікаўленне ветравымі фермамі ў іншых гмінах. У адказ пачуў, што фірма плануе пабудову аднаго ветрака ў Мілейчыцкай гміне і трох у Міхалоўскай.

Спытаў я таксама, ці фірма не зацікаўлена пабудовай сваіх ветракоў у іншых месцах Арлянскай гміны. Прадстаўнікі фірмы адказалі, што пакуль хочуць пабудаваць толькі тры ветракі, але калі б памяняўся закон, дазваляючы стаўляць, напрыклад, у адлегласці сямікратнай вышыні ветрака, тады будуць разважаць.

З вышэйсказанага вынікае, што на сёння ў Арлянскай гміне месца для ветракоў задавальняючых патрабаванні актуальнага закона ёсць толькі на крывятыцкіх палях, дзе канчаюцца межы гміны. Можна сказаць, што ветракі будуць часткова ахопліваць сваім радыусам і тэрыторыі суседніх гмін. Але ўсё згодна з законам і грошы ад ветракоў, па сто тысяч ад кожнага, трапяць у арлянскую казну. Вось дзякуючы войту Пятру Сэльвесюку і Гміннай радзе Арлянская гміна развіваецца. Варта заўважыць, што бюджэт Арлянскай гміны на самі інвестыцыі больш за агульны бюджэт суседняй Чыжоўскай гміны.

Гэта, аднак, не ўсё. Радныя даведаліся таксама, што фірма Vortex Energy прымяркоўваецца да пабудовы каля Рыгораўцаў установкі сонечных панэляў; пад гэта ёсць участак плошчаю каля трох гектараў. Паўтарагектаровая тэрыторыя, дзе стануць панэлі, будзе абгароджана. Кошту інвестыцыі прадстаўнікі фірмы пакуль што не рассакрэцілі. А гэта будзе абазначаць чарговыя грошы ў гмінны бюджэт.

Добра вядзецца ў Арлянскай гміне. І не перашкодзілі двухмоўныя ўказальнікі. Ды магчыма, што менавіта дзякуючы ім так шанцуе Орлі!

Міхал МІНЦЭВІЧ





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# Не здаецца, а праўда...

## (размова з самой сабой)

**Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ, Якуб ГОЛЕЦ, Давід ЯСЮК, Аляксандра ЛАШЧЭЎСКАЯ**
**III клас, Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку**

Чаму гэта чужая бабуля глядзіць на мяне. Яна заўсёды стаіць і глядзіць. Ці ёй няма чаго рабіць? А можа яна настолькі слабая, што і рабіць нічога не можа?

Холадна. Лістапад. Шэрыя дні. Яны бягуць і бягуць. Панядзелак заўсёды цяжкі, а ўжо глядзіш і... пятніца. Тыдзень прайшоў. Калі прыйду са школы, спачатку зраблю хатняе заданне, а потым... Не, не. Кацярына запрасіла мяне да сябе ў госці. Казала, што будзем зноў працаваць над нашым праектам па грамадазнаўстве. Вунь, яна падняла руку, здаецца, яе рука вышэй за ўсіх, проста як сцяг нашай школы на Свята Незалежнасці. Зараз Кацярына будзе адказваць, — яна заўсёды ўсё ведае.

— Добра, калі ласка, Вераніка, — папрасіла яе настаўніца.

— Мне здаецца, што аўтар назваў свой твор менавіта „Прытча пра хлеб", таму што..., — рашуча і смела выказвала сваю думку мая сяброўка.

Ну што ж, яна самая лепшая ў нашым класе. Было б нават дзіўна, калі б штосьці ў яе не атрымалася. Я ўжо яе не слухала. Мне ўспомнілася, калі мы з ёй былі яшчэ малымі дзецьмі, адпачывалі ў адной вёсцы. Кацярына жыла ў сваёй бабулі, а я — у сваёй. Сустракаліся мы толькі на рэчцы, плавалі, збіралі кветкі, пужалі маленькіх качанят, а потым аказалася, што вучымся ў адной школе.

Чую, зноў яна адказвае. Я пазнала яе прыемны голас. Настаўніца заўсёды хваліць яе.

— Вольга, чаму ты сёння не ўдзельнічаеш у занятках, ці штосьці здарылася? Я цябе не пазнаю, — запытала настаўніца.

— Не, не, усё добра, прабачце, калі ласка, — адказала я. — Я думаю, аўтар трапна назваў сваю прытчу, таму што...

Я сапраўды была добра падрыхтавана да заняткаў, ведала чаму аўтар абраў такую назву, хто галоўныя героі і ў чым мараль гэтай казкі. Настаўніца выслухала мяне і папрасіла застацца пасля ўрока. Спачатку я адчула нейкі неспакой, а потым зразумела, што яна хоча паразмаўляць са мной аб маім сённяшнім настроі.

Пасля ўрока ўсе выйшлі з класа, засталіся толькі мы з настаўніцай.

— Вольга, скажы, калі ласка, што цябе трывожыць, ці можа штосьці сур'ёзнае здарылася ў тваім жыцці? — як заўсёды ласкава запытала настаўніца.

— Ды не, нічога такога, — упіралася я, — можа быць проста восень, мне заўсёды сумна і нішто мяне не цешыць.

— Не можа быць. Ты заўсёды вясёлая і вельмі актыўная на занятках, у цябе вельмі многа абавязкаў і ты з імі добра спраўляешся, вучышся выдатна, — не здавалася пані Таццяна. — Раскажы, што ў цябе на душы.

Мне не вельмі хацелася расказваць, але вочы настаўніцы былі такія цёплыя, бліскучыя і іх святло, здавалася, пранікала да самай глыбіні і кранала сэрца.

— Ведаеце, пані Таццяна, мне вельмі смутна ад таго, што ўжо зусім хутка трэба будзе пакінуць нашу любімую школу і развітацца з сябрамі і настаўнікамі. Прыйдзецца, таксама, забыць такое дрогкае пачуццё, калі раніцай уваходзіш у будынак школы, — нясмела пачала я, — яе пах і своеасаблівую цішыню. Здаецца, больш ніколі і нідзе мы не сустрэнемся, не паразмаўляем, не зможам шчыра падзяліцца самымі патаемнымі думкамі. Наш клас — гэта не толькі група людзей, гэта — вялікая грамада сяброў. У кожнага з нас ёсць сваё месца і мы адчуваем сябе добра на гэтым месцы. Мы звязаны паміж сабой, падтрымліваем адзін аднаго, дапамагаем у цяжкія хвіліны, але, здараецца, і пасварымся. Не думайце, гэта толькі на пару хвілін.

— Волечка, вось бачыш, усё складваецца добра, вы ўмееце сябраваць і цаніць сяброўства, гэта самае галоўнае. Вы проста выраслі і вашы эмоцыі ўжо зусім іншыя, дарослыя, больш глыбокія, — словы настаўніцы так прыемна лашчылі і сагравалі. — Вось пабачыш, нічога не зменіцца, вы проста пойдзеце далей у ліцэй, кожны сваім шляхам, сваёй дарогай жыцця. Добра, што вы пабудавалі такі трывалы, надзейны падмурак, своеасаблівую стартавую пляцоўку ў сценах нашай школы, адкуль і пойдзеце ў дарослае жыццё. Не сумуй!

Праз мінеў званок на наступны ўрок. Трэба было вяртацца ў клас. Вучні садзіліся на свае месцы. Кацярына паглядзела на мяне з непакоем, але я нічога ёй не казала. І раптам... Бабуля, мая мілая бабуля. Ты чула ўсё? Ты ўсё ведаеш? Разумееш, як цяжка мне на душы? Дапамажы мне! Ты ўвесь час стаіш і глядзіш у акно нашай школы, на мяне. Чаму так здарылася, што нашы вокны знаходзяцца на адным узроўні? Адно насупраць другога. Я — у школе, а ты — у старой пяціпавярхоўцы. Як два калідоры часу. Твае сівыя валасы, паморшчаны лоб, запалыя шчокі, гэта — пячаць гадоў, якія прамінулі, прайшлі, праляцелі. Ты, таксама, іх не заўважыла і, можа, калісьці пытала сваю настаўніцу, ці праўда, што ўсё ў жыцці мяняецца, што хвіліны ніколі назад не вяртаюцца, што бягуць са страшнай сілай. Дзякуй табе, любая, я не ведаю хто ты і як цябе завуць, але прабач, калі абразіла і спачатку думала, што сочыш за мной. На кожным уроку, нават на перапынку ты стаяла ў сваім акне і глядзела на мяне.
Я зразумела, бабуленька, трэба ўспрымаць жыццё такім, якім яно ёсць і карыстацца ўсім яго багаццем. Бывай, дарагая, жыві доўга. Да старасці.



# Бягучы 2017 год — год Тадэвуша Касцюшкі

**З гэтай нагоды мы прысвяцілі ўжо некалькі артыкулаў Тадэвушу Касцюшку — герою Польшчы, Беларусі і Амерыкі. Сёння вашай увазе прапануем знакаміты нарыс Уладзіміра Арлова «Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі».**

**Апошні бой Касцюшкі**

У кастрычніку паўстанцкі камандзір прыняў свой апошні бой. Гэта здарылася ў Польшчы пад Мацяёвіцамі. Там калона паўстанцаў, якую Касцюшка вёў на Варшаву, сустрэлася з царскім войскам.

Бітва доўжылася цэлы дзень. Гарматны агонь ворагаў рассеяў паўстанцкую кавалерыю. Мужныя, але дрэнна абазнаныя ў вайсковай справе касінеры палеглі ад куль і штыкоў царскай пяхоты.

Касцюшка ў роспачы ездзіў на кані сярод параненых і забітых. Ён таксама хацеў загінуць са сваімі паплечнікамі па барацьбе. Нейкі салдат стрэліў па ім, але трапіў у каня. Тадэвуш Касцюшка вылецеў з сядла на дол, і да яго кінуліся царскія казакі. Каб не трапіць у рукі ворагам, ён хацеў застрэліцца, аднак пісталет даў асечку. Расейскі афіцэр высцяў безабароннага паўстанца шабляю па галаве.

Непрытомнага паўстанцкага камандзіра захапілі ў палон, адвезлі ў Пецярбург і пасадзілі ў самую страшную расейкую турму, што знаходзілася ў Петрапаўлаўскай фартэцыі. Праз год у Пецярбургу з'явіўся яшчэ адзін важны вязень — былы кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў. Ягонай дзяржавы ўжо не было...

*(працяг будзе)*

Вікторыя Верабей

## Карагод

У бары
Пад Новы год
Звяры
Ладзяць карагод.
Глянь,
Паўсталі цесна ў круг
Лань,
Вавёрка і Вяпрук,
Касавокі
Зай з Ваўком,
Рудабокі
Ліс з Катом.
Ім
Сягоння Дзед Мароз
Падарункі ўсім
Прынёс.
Толькі
Пагулялі ледзь,
Нехта ўспомніў:
— Дзе ж Мядзведзь?
У бярлозе,
Ля сасны,
Сніць
Аб Новым годзе
Сны



(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Леў-інвалід!

Леў паламаў нагу і паклікаў да сябе ўсіх падуладных звяроў:

— Вам, як маім падданым, трэба даносіць мне смачную ежу і падносіць дары Богу за хуткае маё аздараўленне!

Звяры выслухалі загады, абмеркавалі ўсё і кажуць:

— Ты сам ніколі не абараняў нас ад мядзведзяў і ваўкоў, ды яшчэ сам часта нападаў на нас. І вось мы рашылі, што зараз будзем маліцца і падносіць дары Богу ў падзяцы за тое, што ён саслаў на цябе бяду.

Ад пачутага леў адчайна зароў, але нічога ўжо не мог зрабіць.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 52-17

**Што за такія чатыры пары,**
**Што за такія чатыры сястры:**
**Першая — назбірае вады,**
**Другая — арэ і сее.**
**Трэцяя — росціць руплівa плады.**
**З..., В...., Л...., В.....**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 31 снежня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 49: мох. Узнагароды, кніжку Міры Лукшы «Спеў дрэў», выйгралі Юля Шкляжэўская, Тамаш Ваўранюк з Нарвы, Магда Люнда, Наталля Гайдук, Аляксандра Іванюк з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# Польска-беларуская крыжаванка № 12-17

**Польска-беларуская крыжаванка № 52-17**

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 48-17:**

Брат, кот, свой, ох, стан, стыль, стома, уклад, пол, тры, одум. Блог, кот, стопы, сто, стымул, валак, конь, лад, ой, уздым.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Юстына Астапковіч, Матвей Зыскоўскі, Аляксандра Якімюк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Іаанна Нікіцюк, Крыстыян Краўчук** з КШ № 3 у Бельску-Паляшскім, **Матэвуш Снарскі, Матыльда Себясюк** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Тамаш Ваўранюк, Аліўка Порац** з Нарвы, **Зузанна Мішчук, Матвей Красько** з Арэшкава, **Гжэгаж Гопш** з Вэрстока. Віншуем!

Link
Liga
Lajk
Kasza
Talia
Szczelina
Irys
Ser
Niwa
Gust
Portal
Most
Iwa
Myszka
Morze
Spis
No
Jak
Jan
Stronica

# Надзея з паўднёвага боку



**Надзея КАРЧЭЎСКАЯ**. Цяпер у Беластоку. Сяджу насупраць яе ў яе ўнуччынай кватэры і аж не верыцца, што гэтая хрупкая, стрункая жанчына з простай, хаця балючай спінай, якая столькі перажыла ў жыцці, заўсёды з паднятай галавой і ўпартым паглядам, што ўсміхаецца і вуснамі, і вачыма, і кожнай маршчынкай, яшчэ заспявае. Пахавала мужа, унука, а нядаўна сваю трэццю дачку, што спявала ў «Незабудках» — Марылю. «Аднак я такая моцная асоба, што калі нешта ўзнікае на маім шляху, трымаюся і пераадольваю. Гэтае змаганне цягнецца з самога дзяцінства. У мяне было шасцёра братоў ды сястра, дома даводзілася цяжка працаваць. Кончыла я ўсяго пяць класаў школы. Далей мяне не пусцілі ў школу, хаця я добра вучылася...».

Аднойчы, калі жыла ў Жэрчычах, Надзея прыдумала выйсце з усіх сваіх праблем: стварыць гурт. Сабрала ў ім шэсць жанчын. Усе на пенсіі, акрамя адной. Некаторыя з іх былі ўдовамі, некаторыя развяліся. Разам, з песняй, прасцей пераадольваць складанасці. Надзея, знакамітая краўчыха і весялуха, хаця спакутаваная ад хвароб і няшчасцяў — не паддалася!

— Даў мне на старасць Бог крыху лепшае здароўе, добрую памяць і крыху таленту. Нельга ж закопваць сваіх умелацей і магчымасцей у зямлю. Рашыла я паварушыцца, — расказвала Надзея ў лютаўскі вечар сем гадоў таму. Сабрала амаль увесь калектыў у сваёй жэрчыцкай хаце, засыпанай снегам. Сяброўкі ледзь сюды дабраліся ў марозны адвячорак! Некаторыя нават апрануліся ў строі, якія запраектавала і пашыла сама Надзея. — Калі я апынулася ў Жэрчычах, захацела знайсці сабе падобных. Села была на ровар і паехала ў Залессе да Ніны Якімюк. І рушыліся мы разам, тады паддала нам духу і Ірэна Яношук, і «Ніва». Выступалі ў гміне, у павеце, у ваяводстве, на фестывалі беларускай песні. Нават на аглядзе... фрывольнай песні ў Чорнай-Беластоцкай. Не адной тужлівай песняй жывём, гаротніцы-беларусачкі! І сумныя, лірычныя ў нас песні, і крыху прыкольныя. Калі не ведалі ўсіх слоў доўгай песні, Надзея дапісвала-імправізавала сама. У свойскай песні — ці па-беларуску, ці ўкраінску, ці па яшчэ якому.

— Назву прыдумала — „Незабудкі". З'явіўся гурт у маі, у час, калі гэтыя кветкі пачынаюць цвісці. Аднак мы называліся „незабудкамі" не толькі з-за кветак. Назва азначае, што мы не забыліся пра даўнішнія песні, якія яшчэ памяталі нашы мамы. Спявалі мы на сваёй, і на польскай, і на рускай, і на беларускай. Часам пачуеш прыпеў, запамятаеш, а асноўныя страфы ўжо не прыгадаеш. Я сама іх дадумваю і на свой лад заспяваю. Спеў дапамагае забыць пра праблемы. Увесь час думала пра тое, што трэба ісці на рэпетыцыі, што трэба сачыць за сабой, трэба навучыцца спяваць новыя песні, сабраць сяброўак. Калі ехалі з гуртом выступаць, спявалі, танцавалі, частаваліся і забывалі пра ўсялякія жыццёвыя турботы. Дзякуючы гэтым песням сябе і ратуем.

Надзея была і ёсць заўжды з царквой. Цяпер штодзень заходзіць у Свята-Духаўскую, бо найбліжэй з яе Гаёвай вуліцы. А ў Жэрчычах?

— У міжваенны перыяд Жэрчычы прыналежалі да гміны Мілейчычы Бельскага павета Беластоцкага ваяводства. Паводле польскага перапісу насельніцтва 1921 г. пражывала тут 271 жыхароў (19 каталікоў, 248 праваслаўных, 4 габрэі; 27 жыхароў было запісаных палякамі, 240 беларусамі і 4 жыдамі)... На Івана ў нас прыхадскі „адпуст", 9 кастрычніка, бо так завёў бацюшка Яўген Панько, які 50 гадоў быў тут, бо цяплей, лепшае надвор'е і больш людзей, прыбывае. А на Дмытра, 8 лістапада, прыязджае бацька нашага бацюшкі Вячаслава Дарамацкага, і адпраўляюць службу ў гонар заступніка нашага прыхода Дзмітрыя Салунскага. Вядома, надвор'е горшае, і менш людзей з'язджае з родных. А сёння (9 лістапада 2011 года), — успамінала, — цудоўнае сонца асвятляе тлум прыхаджан, іх сваякоў ды суседзяў жэрчычан, што прыбылі на асаблівую багаслужбу, з хрэсным ходам аж на старадаўні курган, дзе ўзведзены новы крыж побач старога. Бо праваслаўная парафія існуе тут 1010 гадоў. Сярод вернікаў — таксама жыхары Машчонай-Панскай, адкуль цясляр Ян Мудэль, які зрабіў і ахвяраваў новы крыж. Святы ў прыходзе — на Івана, на Юр'я, на Дзмітра і Ціхвінскай іконы Божай Маці — у першую нядзелю перад Пятром. Я думаю, што найважнейшае свята павінна адзначацца на Дмытра, заступніка нашага храма, якога не знішчыла вайна... На Івана мы таго крыжа не пасвяцілі, бо не паспелі паставіць яшчэ мураванага. А стары крыж там стаіць адвеку. Крыху прыгніў, яго скарацілі, змацавалі, і побач стаў новы, светлы.

У Нурэцкай гміне, дзе старадаўняя вёска Жэрчычы, з амаль пяці тысяч жыхароў беларусамі ў папярэднім перапісе запісалася 13,36% ад агульнай колькасці насельніцтва. Пачынаецца яна сто кіламетраў на поўдзень ад Беластока, а сталіца гміны распалажана ў 20 кіламетрах ад павятовага горада. У вёсцы Жэрчычы, якая 12 км ад Грабаркі і 16 км ад Сямятыч, красуецца вялікая мураваная царква, каля якой штогод затрымліваюцца паломнікі на Святую Гару Грабарку. Вёска Жэрчычы мае свой пачатак у далёкім мінулым. Вядомая гісторыя гэтай зямлі сягае XV і XVI ст., калі яе ўласнікамі былі панства Клюковіцкія і Нурэцкія. Жэрчычы былі градам, вайсковым пастарункам, баронячым галоўнага града Мельніка і спалучаючым яго з Бельскам. Быў гэта пункт, якому пачатак дала збройная дружына кіеўскага князя, якая тут білася з яцвягамі. Князь яцвягаў Краўс загінуў у гэтай няроўнай бітве разам са сваімі ваярамі, якіх целы дружыннікі пахавалі з вялікай чэсцю для геройскіх яцвягаў. Воі сабралі іх целы, коней, зброю і спалілі ды насыпалі высокі курган — ён да сёння відны за рэчкай, з паваротам у Заблоцце. У 1944 годзе быў пастаўлены там крыж, а было іх там разам тры. Пайшлі мы тады на курган — хрэсны ход цягнецца амаль да царквы. Сярод размоленых прыхаджан — Георгі Юдыцкі, былы шэф аховы прэзідэнта Валэнсы, які патрапіў гучна абразіцца за тое, што на дзяржаўнай багаслужбе няма праваслаўных святчэй. «О, «Ніва» — мне гэта блізка», — кажа, і паказвае свае дакументы, дзе імя ў яго запісана «Gieorgi», а сярод найважнейшых папераў, якія пастаянна мае пры сабе, пасведчанне аб хрысце 14 красавіка 1948 года, протаіерэм Яўгенам Панько. Ікону трымае радны Аляксандр Пахвіцэвіч. Сярод вялікай групы стаяўшых на кургане — Ганна Мудэль з Машчонай-Панскай, салэцкая рада ў асобах: Надзея Карчэўская, Лявон Анішчук, Дарыюш Мантур, Рыгор Богдан, Анатоль Дубінскі, і вяскоўцы: Яўген Карнэлюк, Пятро Яшчук, Агнешка Петручук, Ілона Садоўская, Альжбета Дэц, Барбара Богдан, Ніна Любінская, Ганна Раманюк, Анатоль Дубінскі, Аўгіння Дубінская, Збігнеў Колтак, Барбара Верэмеевіч, Юзаф Кардэлевіч, Лявон Анішчук, Пятро Раманюк, Зіна Літвінюк, Мікалай Драбюк, Крыстына Панасюк, Уладзімір Філоц, Анна Мучко, Надзея Мантур, Яўгенія Раманюк, Дарыюш Сачко і Юры Вольскі з Беластока... Кожны ганарыцца сваім тутэйшым старадаўнім родам. Разыдуцца пасля разам са сваякамі па доўгай вёсцы, далей адзначаць свята... Усе ведаюць, дзе стаіць хата Надзеі Карчэўскай. Засталася яна цяпер для ўнукаў.

Ах, тыя Надзіны «Незабудкі». Цяпер яна ад іх далёка. А спяваць далей хочацца... Былі сустрэчы з імі — заўсёды каляровыя. Раз моцна свяціла жнівеньскае сонца, раз разгуляўся праліўны дождж. Гэта было ў Машчонай-Панскай, куды на свята вёскі прыехалі госці не толькі з Нурэцкай гміны. А гэта якраз яны прывезлі тое сонца: незабудачкі-цётачкі, якія адважыліся паспрачацца за сваё ў гмінным доме культуры ў Нурцы-Станцы і выступіць як самастойны ансамбль з улюбёнымі песнямі. У нурэцкім доме культуры перш збіраўся вялікі калектыў, дзе пераважалі пенсіянеры, якім больш даспадобы былі велічныя патрыятычныя песні. А „Незабудкі" хацелі спяваць сваё. Ад сустрэчы ў Машчонай-Панскай у 2008 годзе адважна і гожа выступалі на розных мерапрыемствах, а нават самі ладзілі фэсты-забавы для акалічных вёсак, а нават і ў суседняй, Мілейчыцкай гміне. Гэтак было ў Рагачах, адкуль родам Надзея Карчэўская. Выступала яшчэ з імі Марыля Шпанская, яе дачка, з Нурца-Станцыі, і жанчыны з блізкага Залесся — Оля Філоц, каталічка Галіна Пытэль, Ніна Якімюк, і з Заблоцця — Антаніна Грушэўская. А на гармоніі падыгрываў ім Антон Капялько з Радзівілаўкі, гарманіст з капэлы „Рэтра". Надзея Карчэўская выступала і перапранутая, прыгадвала традыцыйныя абрады з паўднёвага Падляшша. Яе ўспаміны пра абрады сабралі нават у кніжачцы ад Мілейчыцкай гміны «Ўратававаць ад забыцця важныя элементы культуры на тэрыторыі Мілейчыцкай гміны» (аўтары Моніка Балут, Дарафей Фіёнік і Надзея Карчэўская).

Хочацца Надзеі Карчэўскай, цяпер з Беластока, куды прыехала спакайней пажыць ва ўнуччынай хаце, далей сустракацца з падобнымі да яе, творчымі людзьмі, звязанымі з родным словам, абрадам і песняй. Вось і ў родную «Ніву» прынесла свой успамін напісаны на яе матчынай мове. І праз слёзы ўсміхаецца да блізкіх ёй людзей.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

Надзея КАРЧЭЎСКАЯ

*Жэрчычы — Беласток*

## Успомін

Дзецінство мое було тяжкое. Вродылась я в 1939 року в сылы Рогачы, Семятыцкого повяту. Було в нас 8 дыты: мамы сын, тата дочка 13-летня і вспульных шэстёро: 5 братув і я шостая.

У час ныкончоной войны міла я штыры лет. Прышов дохаты якісь войсковы і сказаў до мамы: «Убірай дэты і выходіте з дома, бо дом будэ спаляны, но шкоды дітей». Я так тых слуов пырылякалась, што на другой дэнь стала вэльмі ёнткатысь. Ратовала мэнэ мама розмаітымі способамы, хто чым радыв. Зачала я до школы ходыты. Наўчыцелька спытае мэнэ, а я ны дам рады сказаты, а ўмію. Кілька раз так було, жэ пані казала «Proszę przyjść i na tablicy napisać», а я з усьмехом іду і пышу. У трэцюй клясі пырыстала я ёнкатысь, а то дзякуй Святой Горы Грабарцы. Пошла моя мама на піехото зо мною на нуч і молілась. І молітва була Богу ўгодна. І од тэі поры хорошэ мні говорылось і спывалось.

Мімо што добрэ вучылась, тато ны пустыв до школы. Кончыла тылько 5 кляс подставувкі. Старшы браты пожынылісь і оддылілісь. Молодшы два пушлі на офіцэрскі школы. Наймолодшый вывчывся на інжынера в копальні в Катовіцах

А я осталась на господарці. Бардзо тяжко робыла. На трынайцатум рокові пушла ўчытысь за кравчыху на сэзон зымовы. Але тато пыв і для кравчыхі по трох місяцях ны заплатыв, сказав жэ ны даст ані гроша, а кравчыха хотіла 500 злотых. І я мусыла покінуты ўчытысь. Тогды в нашому сылі робылі вінькы по злотувці. Я рызала бэрэзыну, коло ліса жыла. Мама троху помагала. І зробыла пятьсот штук, і заплатыла кравчысі. Ходыла на пехото до Семятыч два разы двайцать пять кіломэтры, до «Моды дамскей». У склепі цэнтымэтром мірала тое, о шчо мі ходыло. Робыла выкрої з папэру. Порола рукавы, ногавыці старыі і так наўчылась, жэ до дзісь ішчэ потроху шыю, мімо жэ маю 78 руок од мая.

Мімо трудного моёго дзецінства ныгды з плачом мэнэ ныхто нэ бачыв. В паненстве поводзэння мні ны браковало, но дала до вядомосьці, жэ ў своей парафіі замуж ны пуйду. Повуд в моіх мыслях був такій, жэ ны будэ тато прыходыв до зятя на пувлітра, а я ны буду бульш на вудку робыла. Так постановыла. На вісілях бардзо мнуго була, бо мамы і тата роднявыла выліка. Я була бардзо одважна, весёла. Як коровая зачнут дылиты в тракце вісіля, то я з дружкамы каждому якуюсь прыпевку заспываю. І так сталось. В 1952 року была на вісілю і так сподабалась одным людём, што прывызлі свого кузына. Два спотканя було з ім, а на трэтім прыйіхав на дывоснубы з роднёю. Тато бачыт жэ то направду доходыт до вісіля, взяв кія і повыганяв всіх з хаты. Но он постановыв, жэ муй батько ны мусіт вісіля робыты і спытав мэнэ: «Ежэлі я тобі сподобався, то дай свое данэ і прывызу мэтрыкі». І на чэтвэртэ спотканє взялі мы цывільны, а на пятым цэркевны за два тыжні.

Вышла я замуж за бардзо прыстойного Міколая. Прожылі сорок два лет. Був старшы на дэсіть лет. Мілы вспанялых трох дочок. Бардзо я була задоволёна, жэ вышла за ёго. Шановалысь мы навзаем. Дочкі повыходылі молодо замуж. Але сэрэдня трэтій рок як умерла — такого міла гада, ны дай Божэ ныкому. У мэнэ свекруха була ны до жыця. Я промучылась з ею 27 лет, бо колісь ны дылілісь. Свекры і вся іх родня — ны дай Божэ ныкому. Дождала я 9 внукув, одён згінув трагічне, а в тым рокові дождала 10 правнукув. Маю тры внучкі, у которых была на вісілю. Но выліка ружніца — давнышны вісіля мнуго цекавшы і трывалы — як зачнутся в суботу, то кончаются у другу суботу!

Як згану свое вісіле! Як до коровая прыіхав до хаты хлопэць на конёвы. Вун колісь хотів жэбы за ёго я вышла. Вун постановыв, жэ коло коровая зложыт нам жычэня. Затрымав коня коло стола, взяв друбны грошы і сыпав до талюрка і так говорыт: «Сыпю друбны грошы, жэбы булі вам діты хорошы!». Мы як молоды подякувалі, а маршалок укроів коровая, а брат даў пувлітра, бо тата браты ўспокоілі і свадьба одбулася так як повінна.

Жыцє ны було латвэ, але ежэлі разом з мужом в згодзе, всё можно пэрэжыты. Я мужа ны маю ужэ семнайцэт лет, но одвагі і вэрвы мні ны браке. Жыву ужэ в Білостоці. У Нурцёвы заложыла була зэспул «Незабудкі», ужэ праве 10 літ. Зоставыла зэспул, бо умэршый дочкі дочка яко внучка зэ своім мужом забралі мэнэ до мешканя, бо мелі вольнэ. Бардзо добрэ там чуюсь — на 1 пентры, два покоі. Дякую Богу за внучку і ейі мужа.

Уложыла я песэньку.

*За горою гора, за горою вышня,*
*Хоч ныкого нэ знала, але замуж вышла.*
*Бо то булы таке часы, прывызут дохаты,*
*А як хлопэць сподобае, постановыт браты.*
*І я вышла за ёго, і була шчаслива,*
*Бо он мэнэ шановаў і я ёго любыла.*
*А тэпэр насталі часы, аж страх подуматы,*
*Бо сама дывчына прыходыт дохаты.*
*Прыходыт дохаты, ны про шчо нэ дбае,*
*Навэт по вэчэры мысок ны змывае.*
*Ходят руок, ходят два, потом ростаются,*
*А батькі з того всёго на сэбэ злуются!*






Ян ШЫМАНЮК
*Семяноўка*

## Гарэлка

Усе гавораць — «водка-водка».
Няўжо яна вам такая салодка?
Бо яна мне такая пракудна,
Што выказаць проста трудна.

Так аднойчы нахлябтаўся,
Што на вуліцы валяўся.
Дзёр тады сабе я грудзі
І крычаў: «Ратуйце, людзі!»

Людзі беглі як на дзіва.
Прынеслі мне квасу-піва...
Можа, крыху палягчэла,
Толькі ў маёй лысай галаве шумела.

Ледзь дахаты я дабраўся,
Пад платамі наваляўся...
У кішэню: што за ліха???
Там ж, браткове: ціха-ціха-ціха...

## Мая жонка

Маю жонку, маю й хату.
Хваліць жонкі не магу.
Хай жыве з ёй той хто сватаў,
Яна ж мяне гне ў дугу!

Жонка здзекуецца-морыць,
Каб я да другой не ўцёк.
Яна часта мяне ў каморы
Замыкае на замок!

Не знайсці вам такой жонкі...
Яна ж ноччу моцна спіць.
Мне ж усю ночаньку пялёнкі
Для дзіцяці кажа мыць!

Хай жа возьмуць жонку чэрці!
Як жа мне з ёю быць?!
Не дае мне як памерці,
Ну ж і цяжка з ёю жыць.

## Век XXI

Век дваццаць першы — век харошы.
Эх, каб мне грошы! Каб мне грошы!
Каб мне грошай хоць з паўпуда,
Натварыў бы сёння цудаў!

Даў бы ксяндзу і папу,
І Паўлюкові таму,
Дык калі б яе ласка,
Мела б крыху і Параска.

А як грошай няма,
Сядзі ўдома, як чума.
Ніхто на вячоркі не кліча,
Толькі пад нос фігі тыча!

Не было б мне чым заняцца.
Давай у пастухі наймацца.
Каб мяне людзі хвалілі
І больш у торбу сала налажылі.

Вера РУСІНОВІЧ
*Нарва*



## Душа чуе потрэбу

З молітвой вона жывэ
По ступеньках Богу ў гору
Слово радосьці дзісяй нэсэ
Калі цяжко і смутно бывае
З пахушчой прыроды аромат
наліває ў корыэне свое
І цешыт на родной ніве
З росой на траве
Дзісь мые рукі свое
Чуб дэрва лістка ўгорэ колышэ
Вецер словом родным говорыт ему
Вон дужо бачыт і знае о нашэй душэ
Заглянэм дзісяй у рэчку
Вона з шумом тут хутко плывэ
Сьвежы запах прыносіт усэ
А рыба хвостом плюснула
Бэрэг рэчкі вода подліла
Сухі лісток як карабель
Поплыў з мруком воды
Умыў жылы ў душэ
Воны сталі чысты наўсэ.

* * *

Дзіўюсь очыма на слово
Дзісь одзягнутэ чорным друком
У кніжках жывэ
Вэліке богатэ спэрэду — спочатку
другіх за руку вэдэ
За ім у лінейцы тэмат продоўжае
І ладану запах нэсэ
Усем жыце ўміляе
Хто расказ слоў очыма вэдэ
Тут спокуй і праўда госьціці зачынае
На полетках ніві родной жывэ
Стэжка, дорога, граніца тут
проходзіт по іншой зэмле
Як пташка дзюбае збуожэ
Дзісь оловок нарысоваў крыво ее
Умыла гумка пюра звэрху
чуб гожы дала
Стала чыста кніжка моя
Тут тэмат скончыўся словом родным
простым своім
Подпісаны друком імёна
што колісь тут жылі
На ўсэ ў памэці осталісь воны.

* * *

Ты Божэ даеш нам прохладу
Дзісь лечыш раны душы
Кроплі з лістка спадают
І мочат пісок на зэмле
Роса блішчыт здалека
У очах одбіваецца слеза
Говорыт о жыцю чалавека
На родной зэмлі вона
Наш Лекар — доктор Хіругр Мэдыцыны
Сьвяты Архіепіскоп Крымскі
(Войно-Ясенецкі) Лука
Вон нам поможэ ў бедзе
Бо рана пробіта дзісь ропа тэкла
з головы чоловека —
Крэстом Спасі
І помілуй у хворобі нэшчасьцях бедах
Тэбэ Сьвяты Архіепіскоп
(Войно-Ясенецкі)
Лука мы просім — помогай нам
Молі Бога о здороўі за нас —
лечы душы і тела
Народ меў раны вэлікі
Як воін доктор мэдычный рукі
Помог солдатам на фронце
Полечыў з молітвой да Бога ўсіх
Тэпэр Тэбэ ўспомінаем і просім
Благословенія Сьвятой Рукі
Полеч дзісь раны тут у жыці
У молітве просі за нас Бога
Мы верым што ўчуе просьбу Твою
Полечыт рану очысьціт усю
Мы просім Тэбэ і верым што
нам поможэш на ўсэ
Слова дзякую дзісь мы прыносім
і кажэм
Сьвятому Архіепіскопу Крымскому
Доктору Мэдыцыны Луцэ
Ты Сьвяты ўгоднік лекар вэлікі
У Прэстола стоіш
До Бога слова молітвы
за нас усіх говорыш
За ўсех нас нэшчасных
і хворых у бедзе
Кажэш што б Бог нас поміловаў
Од нэшчасьця кругом на Зэмле
Спасі і Сохрані
Словы сіе жывут на Прэчыстом
Крэсьце
Спасенне прыносят
верной нашэй душэ

* * *

Стукае дождж у окно у шыбу
Мочыт сухую скібу зэмлі
Просіт і кажэ траве наліці воды
У сухое корыэне ўтомянэ —
вонэ зноў зачнэ росьці
Выпусьціт на сьвет лодыжку
З зэлёным лістком своім
А звэрху пучок нэхай расьцьвітае
Квіткі пахушчой усім
Сонцэ ціхо за облаком сьміетцэ
І гожэ станэ сьвеціць
У радугі одбівае проміне
Малюе колёром Нэбо ўгоры
А ў лузе жаба рэгочэ
Кажэ воды многого тут прыбыло
У чырвоных чоботах бусёл ходзіт
ступае
Дзісяй над лугом жывэ
Гуолле на стоўп у гору носіт
Тутай гніздо плесьці зачнэ
Высоко дзюбом чырвоным болото
і сіено кладэ
У короткі час тут жыці вуон будэ
Бо літо хутко мінэ
Дзісь осэнь прыходзіт — настанэ пора
За морэ лецеці зачнэ
буслоў уся громада
А дождж стукаці будэ
Зэмлю мочыці зачнэ
Сонцэ ўгорэ засьміетцэ
І кветка пахушча зноў тут выростэ.

* * *

Для пожылого народа ў памэці
Осталось колісьне жыце
Дзісь гісторыя і музэй Подляся
У нём госьціт — словом жывэ
Пахнэ ручною карціной работы
на родной зэмле
Ковальскі плуг і бороны тут одпыхают
На кроснах бэрдо, нічэніцы
Затканы ходнік льном пахнэ
Тут Подлясе жывэ — дзісь змучанэ
одпыхае вонэ
А мы жывэм у другой стороне
Дзісь многого чужого товару
на подляской зэмле
Льняна сорочка саян
дзісь одпыхае як пан
Вісіт у коморы і кажэ ўсім
Што нашы продкі
любілі роднэ мейсцэ
Сіялі збожэ з коробкі —
а дзісь нэпотрэбна
— на поліцы стоіт
У ней павук з паўчыной госьціт
Сноуп соломы звязаны пэрэўеслом
у кутковi одпыхае
О родной зэмлі ўсім промоўляе
Тут гісторыя пахнэ Подлясём
Мы помэтаці будэм однэ
Што сонцэ на ўсходзі ўстае
У полудне Господню молітву
душа промоўляе
А заход до тэмной ночы ўкладае
і ўсё одпыхае
Тры словы што Бог у іх жывэ
Тут на Подлясі ўсэ
Напісаны словы чорнілом рукой
Покрылісь друком у кніжцы своёй
Наша мова на гаворцы родного слова
Вонэ дыхае — жывэ
Шановаці его трэба
А памэць о ём коб нэ гасла ніколі.

* * *

Пішу словы і рысую
Усех на папэры дзісь малюю
З іх складаю тэмат мовы
Родной нашой — у лінейцы
ўсе воны готовы
Буду дзісь правой рукой пісаці
Што б нэ мэрзлі — друком одзягаці
Усе так гожы і простые
Літары нашы родные
Однэ мае хвост загнуты
Друге круглэ і надутэ
Гожы нам воны ўсе
Дух Подляся ў іх жывэ
Гуолле дзісь сокірою рубаю
Тополю од воды оддзіляю
А бэрозу ў пучкі вяжу
У костругі сушыць кладу
На дворэ погода ўсяка
Вэсной раннёй быле-яка
Бусёл з-за мора прылітае
Клекотаті начынае
Кукае зазуля ў лесе
Пташка яйко на гнізьдзе дзісь несе
І малые піскленята будут
З цьвірканём вэсной прыбудут
Квітка пролішчка цьвітэ
Сінёй плахтой зэмлю застэле
Стане росьці пахнуці вэсной
Будэ тэплей ёй як зімой
Дэ і жыця на зэмле нэма
Сьнег люог спаці ў дворэ
А мороз куе дэрва ў лесе ўсе
Замэрзьляны стоят
А як сонцэ засьвіціло
З тэплотою дзісь прыбыло
Над морозом засьміетцэ
Сьнег тут плачэ і з одлігой б'етцэ
Потэкла вода до рэчкі
З шумом мруком гонорова
Бо вэсна прыйшла ў госьці
Уся богата і здорова

# Засталіся адно ўспаміны (31)

У Кошкі я заязджаў яшчэ перад працай у ВПК у кампаніі калегі аднавяскоўца Міхася Качука. Меў ён у вёсцы дзяўчыну, якая называлася Пашай, Аляксандрай. А ездзілі туды на забавы. Гэта было ў пачатках шасцідзясятых гадоў. Святліцы ў Кошках не было. Забавы арганізавалі ў прыватных кватэрах. У той час я пазнаёміўся з Янкам Загонам ды Янкам Плугам. У гэтага апошняга была сястра Тоня. А паколькі мелі яны большы дом, дык моладзь арганізавала ў іх забавы. Вёска невялічкая, тыповая, як большасць сёл на Падляшшы. Сяляне займаліся гаспадаркай. Мабыць, і прозвішчы ў іх звязаны з земляробствам: Плуг, Загон, Бурак, Сліўка... Кошкі былі вядомай вёскай на Бельшчыне і славіліся вырабам саламяных мат (цыновак). Праўда, гэтым рукадзеллем займаліся і ў іншых вёсках, але прывілеем карысталіся Кошкі, паколькі ў пункце скупкі рукадзелля кааператыва «Цэпэлія» ў Бельску-Падляшскім экспертам па ацэнцы вырабаў працаваў Камар (як не памыляюся, Іван) з Кошкаў. Кіраўніком у Бельску-Падляшскім працаваў Аляксандр Сахарчук, а кладаўшчыком — Станіслаў Весялоўскі. Кааператыў «Цэпэлія» ў Беластоку змяшчаўся па вуліцы Астроўскага, 21. Маты ткалі жанчыны на кроснах з адборнай саломы. Жыта — няспелае, зялёнага колеру — касілі касою або жалі сярпом. Малацілі абавязкова цэпам. Маты ткалі па размеру: метр шырыні і два з паловай даўжыні — вузкія і паўтараметровыя — шырокія. Гэты апошнія выраблялі ў Якубоўскіх, што каля Боцькаў. Апрача таго выпучаліся маты звычайныя і ўзорыстыя (каленкавыя ды з бобам). Памятаю, як я жаніўся ў Дубяжыне ў 1968 годзе, дык мая жонка таксама лічылася членам кааператыва «Цэпэлія» і ткала маты. У выхадныя я чысціў салому. Так рабіла большасць мужчын, дзе ткалі маты. Найбольш здавалі мат сяляне Кошак, Дубяжына, Рыгораўцаў, Пашкоўшчыны, Малінніка, Мокрага ды іншых вёсак. Вяскоўцы разбагацелі. А ў Кошкі мы пачалі заязджаць з кінаперасоўкай трохі пазней, калі пабудавалі святліцу. Гэта было пэўна пасля 1965 года. Хоць вёска невялічкая і зала змяшчала сорак гледачоў, прысутнасць заўжды была ў норме. У Кошкі мы заязджалі штомесяц з Пашкоўшчыны, а далей кіраваліся на Пілікі. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# На рэабілітацыйным аддзяленні (13)

Наступіў другі тыдзень рэабілітацыі ў белавежскім «Ракітніку». У панядзелак, 28 жніўня, у Белавежы адзначаўся царкоўны фэст Успенне Прасвятой Багародзіцы. Мы развіталіся з паняй Басяй з Валбжыха. Далучылася «прыватна» да нашай групы з трынаццаці чалавек. Паколькі не атрымала яна фінансавай падтрымкі з Цэнтра дапамогі сям'і ў Валбжыху, дык рашыла паехаць у Белавежу на ўласны кошт.

— Мае карані выводзяцца з Гайнаўкі, — сказала мне ў час размовы. — Тут пражывае мая цётка. Дзесяць гадоў працавала я ў медычнай службе ў Валбжыху валанцёркай. Калі прыйшлося папрасіць у Цэнтры дапамогі сям'і фінансавай падтрымкі на рэабілітацыю, дык сказалі, што грошай не хапае. Неакуратна абышліся са мною, — з сумам канстатавала пані Бася. — Зрабіла я ўласны рахунак. За двухтыднёвую змену ў «Ракітніку» трэба было заплаціць 1250-1450 зл. Мне на гэта не дазваляў дамашні бюджэт. Выкупіла затым абеды і начлегі ў «Ракітніку», ды папрасіла далучыць мяне да рэабілітацыйнай групы. Кіраўніцтва пагадзілася. Такім чынам я змагла пакарыстацца арганізаванымі экскурсіямі і вячоркамі. Пазнаёмілася з удзельнікамі.

Для нас пані Бася аказалася задушэўнай і гаворкай кампаньёнкай.

Наступнага дня, у аўторак, 29 жніўня, пасля снедання арганізавалі нам экскурсію ў Белавежскі нацыянальны парк, а пасля абеду — у музей. Удзельнічала сем чалавек. Экскурсаводам была кіраўнічка Аня Шаўкала. Я не змог удзельнічаць па прычыне балючых ног. На адвячорку правёў я размову з Івонай і Бажэнай, удзельніцамі рэабілітацыйнай змены са Шлёнска.

— Адкуль прыехалі, калі не таямніца? — пытаю сімпатычную бландзіначку.

— З Твардагуры Ніжнешлёнскага ваяводства...

— У Белавежы ўпершыню, ці раней бывалі?

— Раней прыходзілася быць у камандзіроўцы ў Гайнаўцы, — адказвае бландзінка.

— Пры нагодзе наведала Белавежу. Спадабалася мне. Рэкамендавала сяброўцы пакарыстацца рэабілітацыйнай зменай ці пацікавіцца культурай Падляшша. Вось і прыехалі...

— Са Шлёнска ў Белавежу шмат дарогі. Колькі Вас гэта каштавала? — цікаўлюся.

— Сапраўды адлегласць вялікая, больш за шэсцьсот кіламетраў, — канстатуе суразмоўніца. — Мы працуем у фірме для людзей з абмежаваннямі. Кошты пакрывае фірма.

— А чым Ваша фірма займаецца?

— Кааператыў інвалідаў «Spamel» з'яўляецца вядомым прадпрыемствам і спецыялізуецца ў вытворчасці электрапрыбораў...

Больш чым паўгадзінная размова дазволіла бліжэй пазнаёміцца з сімпатычнымі кампаньёнкамі. На трэці паверх падымаліся на ліфце быццам добрыя знаёмыя. У час размовы сяброўкі выявілі мне, што звседалі шмат сакральных аб'ектаў у наваколлі Нарвы і Беластока. Але аб гэтым у наступных допісах.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

Настаўніцкая газета

http://nastgaz.by

Прафесія настаўніка ў беларусаў заўсёды карысталася павагай. Гэта зразумела, бо настаўнік — гэта чалавек, які не толькі ўласна вывучыўся, але і можа перадаць свае веды некаму іншаму, а менавіта дзецям. На жаль, у Беларусі прэстыж настаўніцкай прафесіі за часы незалежнасці не тое, што пахіснуўся, а ўвогуле разбурыўся. Спачатку цікавасць да педагагічнай справы ў маладых людзей змяншалі нізкія заробкі. Пасля таго, як да ўлады прыйшоў цяперашні правіцель, то рукамі многіх настаўнікаў, якіх улада ўключала ва ўчастковыя выбарчыя камісіі, сталі рабіцца чорныя справы фальсіфікацыі выбараў, што таксама не дадала гонару настаўніцкай прафесіі. У выніку лепшыя часы для настаўніцкага аўтарытэту ў Беларусі засталіся ў далёкім мінулым. Але, нягледзячы на такія прыкрыя рэаліі, патрэба вучыць беларускіх дзяцей не знікае, а значыць настаўніцкая праца проста неабходна, нават калі не казаць пра яе якасць.

Здаўна, ад 1945 года, у Беларусі для педагагічных работнікаў выдавалася „Настаўніцкая газета". Яна заўсёды была беларускамоўнай. Зараз беларускамоўнасць газеты ледзьве не адзін з нешматлікіх яе плюсаў. Каб у гэтым упэўніцца, дастаткова зазірнуць на сайт выдання ў інтэрнэце, які месціцца па адрасе **https://nastgaz.by**.

Галоўная старонка віртуальнай версіі газеты зроблена даволі прывабна, калі не зважаць на змест артыкулаў. Калі ўсё ж такі звярнуць увагу на яго, то немагчыма пазбавіцца ад уражання, што апынуўся ў далёкім савецкім мінулым з папраўкай на сучасны „лукашэнкаўскі" перыяд жыцця Беларусі. Савецкія газеты хоць і не маглі нічога дрэннага напісаць пра палітыку камуністычнай партыі і савецкага ўрада, але дазвалялі сабе быць месцам абмеркавання нейкіх праблемных момантаў у той ці іншай галіне. Знайсці нейкі намёк на сутыкненне думак па значных праблемах у працы беларускіх настаўнікаў у „Настаўніцкай газеце" аўтару гэтых радкоў не ўдалося. З чаго застаецца зрабіць выснову, што ніякіх праблем у беларускай школе няма. А вось у іншых краінах, праблем безліч. Пра гэта сведчыць рубрыка „Паралелі". Дастаткова паглядзець на загалоўкі артыкулаў: „Вялікабрытанія: студэнты правялі акцыю пратэсту", „Расія: з-за фільма „Яно" настаўніца засталася без работы...", „Расія: школам не хапае мужчын" і іншыя. Такім чынам атрымліваецца, што пра Беларусь усё толькі добрае, а пра іншыя краіны — можна па-рознаму. Пэўна, менавіта такім чынам разумее рэдакцыя газеты свой статут, у адпаведнасці якім асноўнай яе мэтай з'яўляецца рэалізацыя права грамадзян на атрыманне поўнай, сапраўднай і своечасовай інфармацыі аб дзяржаўнай палітыцы ў сферы адукацыі і дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы, функцыянаванні і развіцці нацыянальнай сістэмы адукацыі РэспублікіБеларусь, сацыяльна-эканамічнай, грамадска-палітычнай, міжнароднай і іншых сферах. Пра гэта распавядаецца ў рубрыцы „Пра нас", выйсце на якую месціцца ўнізе цэлага выяўлення.

Здаецца, газета, якая выходзіць па-беларуску, павінна незвычайна ставіцца да таго, што беларуская мова пераважвае зараз не лепшыя часы, што толькі недзе 10% вучняў у Беларусі навучаюцца па-беларуску і іх колькасць штогод змяншаецца. На жаль, „Настаўніцкую газету" гэтае пытанне, па ўсім відаць, не хвалюе.

Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Ідэолаг беларускага Адраджэння

# 75 гадоў з дня гібелі Вінцэнта Гадлеўскага

24 снежня 1942 года ў Трасцянцы пад Менскам нацыстамі расстраляны ці закатаваны Вінцэнт Гадлеўскі, беларускі рымска-каталіцкі святар, ідэолаг беларускага нацыянальнага руху. Гадлеўскі нарадзіўся 16 лістапада 1898 г. у вёсцы Шурычы (Свіслацкі раён). У 1912 г. скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, потым у 1916 г. — Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію. У сакавіку 1917 г. абраны ў Беларускі нацыянальны камітэт, удзельнік Усебеларускага з'езду 1917 года. У траўні таго ж года ўдзельнічаў у З'ездзе беларускага каталіцкага духавенства ў Менску, дзе выступіў з прамовамі „Палітычна-народная акцыя каталіцкага духавенства на Беларусі" і „Стварэнне каталіцкай партыі". Пасля абвяшчэння БНР уваходзіў у склад яе Рады. У 1921 г. выдаў беларускамоўныя казанні XIX стагоддзя.

Вінцэнт Гадлеўскі — адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, рэдагаваў газету „Крыніца". Выкладаў у Нясвіжскай беларускай семінарыі. З 1924 г. быў пробашчам касцёла ў мястэчку Жодзішкі на Смаргоншчыне. Двойчы — у 1925 і 1927 гг. арыштоўваўся польскімі ўладамі, у 1927 г. засуджаны да двух гадоў турмы.

З 1929 г. жыў у Вільні, у 1930 г. часткова пераклаў на беларускую мову Новы Запавет (4 Евангеллі і Апостальскія дзеі, выдадзеныя лацінкай адной кніжкай у Вільні ў 1939 г.). Стварыў падручнік „Гісторыя святая, або Біблейная Новага Закону" (1932). Выступіў з ініцыятывай стварэння Беларускага нацыянальнага фронту, выдаваў газету пад назвай „Беларускі фронт". У аснове ідэалогіі Гадлеўскага — беларускі кансерватызм, угрунтаваны на гістарычнай памяці, мове, культуры, традыцыях. У ролі нацыянальнай эліты, здольнай кансалідаваць і павесці за сабой нацыю, Гадлеўскі бачыў інтэлігенцыю. Кансерватыўны падыход гарманічна злучаўся ў яго з хрысціянскім персаналізмам — увагай да асобы.

З пачаткам Другой сусветнай вайны пераехаў у Коўна, з чэрвеня 1940 г. быў у Варшаве. Заснаваў у канцы 1939 г. Беларускую незалежніцкую партыю. У чэрвені 1941 г. увайшоў у створаны ў Берліне Беларускі нацыянальны цэнтр. З верасня 1941 г. дзеяў у Менску. У час нямецкай акупацыі прызначаны галоўным школьным інспектарам пры Генеральным камісарыяце Беларусі (кастрычнік 1941), кіраваў працай па падрыхтоўцы праграм навучання для беларускіх пачатковых школ, адначасна быў сябрам Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы. Служыў у Чырвоным касцёле ў Менску. Ад пачатку быў вялікім прыхільнікам немцаў, лічыў, што пасля скanчэння вайны немцы аддадуць беларусам усё кіраўніцтва ў Беларусі, спрабаваў выкарыстаць супрацоўніцтва з немцамі для мабілізацыі беларускіх патрыятычных сіл. Гадлеўскі разам з Янам Станкевічам спрабаваў наладзіць у Беларусі культурна-асветную працу, але іх планы былі перапыненыя нямецкім кіраўніцтвам — Генеральны камісарыят нават забараніў ксяндзу зносіцца непасрэдна са школьнымі аддзеламі акругі. Быў адным з падпісантаў вядомае адозвы да беларускага народа, якая заклікала беларусаў змагацца супраць бальшавіцкай Расеі. Неўзабаве Гадлеўскі пачаў крытыкаваць нямецкую палітыку ў дачыненні да беларускага народа. Арыштаваны нямецкай паліцыяй у Менску ў ноч на 24 снежня. Гадлеўскаму была прапанавана праца ў Рызе, але ён адмовіўся. Пасля гэтага забіты.

Месца пахавання пасля расстрэлу невядомае. У Шурычах захавалася хата, дзе жыў Гадлеўскі.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



Міра ЛУКША

## *Карова Дзіванна*

*Кароўка са Скупава*
*чырвонай пароды*
*доўга не надумвала,*
*схацела свабоды.*
*Скінула кайданы,*
*кінула абору,*
*пайшла ў партызаны*
*па-над лесам-борам.*
*Зубры ёй прынада,*
*Пранца палюбіла,*
*Да яго атрада*
*хвацка далучыла.*
*Свіней намаўляла*
*рабых і ружовых,*
*ратаваць каб сала,*
*да дзікоў – у дуброву!*
*Каб быць незалежным,*
*трэба быць свядомым.*
*Ім жа ж – каб уежна*
*і цёплай саломы.*
*А яе цяляткам*
*малодзіва кралі*
*і ад добрай маткі*
*білі, прадавалі.*
*А пасля даілі*
*бедну месяцамі,*
*пасля запускалі,*
*да быка вадзілі,*
*кахаць не давалі,*
*у пальчатцы гумовай*
*бедну апладнялі!..*
*Гэта ж негуманна,*
*і ненатуральна.*
*Кароўка Дзіванна*
*хоча жыць іначай,*
*проста – па-быдлячы.*

# На Варвару ў Кузаве

4 снежня католікі адзначалі „Барбурку”, а ў праваслаўнай царкве праходзілі богаслужэнні ў гонар Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы. Звычайна называем гэта «першай калядою». Праваслаўныя Варвару адзначаюць 17 снежня. Кузаўская прыхадская царква абрала заступніцай св. велікамучаніцу Варвару (апрача св. Тэклі — 7 кастрычніка). У народзе прытрымліваюцца народных прымавак з гэтым звязаных. У католікаў кажуць: «Як Барбурка по водзе, то Божэ Народзене по лёдзе». У праваслаўных існуюць дзве прымаўкі пра Варвару: «Як Варвара разварыт, то Мыкола прыгвоздыт» і „Варвара ночы ўварвала, дні прыточыла». Першая прымаўка сёлета пэўна не апраўдаецца католікам. Надвор’е робіць сюрпрыз. Зімы ані следу. Больш можам гаварыць пра восень або вясну, чым аб Божым Нараджэнні. Сёлета ў Кузаве на Варвару стаяла пераменнае надвор’е — хмары, сонца, без ападкаў. Вецер памяркоўны, пераменны. Тэмпература + 2 градусы. Але сем гадоў таму я зафіксаваў у сваім дзённіку на Варвару 13 градусаў марозу ўначы, ды сем удзень. Стаяла сапраўдная зіма. Памятаю як калісьці мы адзначалі Варвару з бацькамі. У госці запрашалі з Дабрывады дзядзьку Рамана з цёткай Ганнай. Пасля багаслужбы арганізавалі святочнае застолле. Падавалі посныя стравы. Казалі, што гэта «першая каляда». Ад таго вечара пачыналі спяваць калядкі. Зараз аб гэтым ніхто не напамінае. Святочная літургія ў царкве сёлета пачалася ў дзевяць гадзін зранку і доўжылася да дванаццаці гадзін абеду. Служылі а. Рыгор Наўмовіч з Кузавы і запрошаныя святары з Гайнаўкі, Варшавы і а. Кулік, які раней правіў у Кузаўскім прыходзе. У прыходзе знаходзяцца яшчэ сёлы Вулька-Тарахоўская, Рэпчычы і частка Чаромхі-Станцыі.

**(ус)**

# Адкрылі краму і бар

У канцы лістапада гэтага года на пасёлку Выгода па вуліцы Бжэхвы ў Беластоку адкрылі адноўленую (яна папрыгажэла, між іншым, звонку — новы фасад), вялікую прадуктовую краму „Вясёлка” („Tęcza”) і бар. Цяпер у краме пачалі прадаваць — што варта адзначыць — значна больш чымсьці раней свежых харчовых прадуктаў.

Варта дадаць, што зараз стравы з бара можна купіць у акенцы проста з аўтамабіля (вадзіцелю нават не трэба з яго выходзіць), так як у барах МакДональдза. З гэтай мэтай павялічылі яшчэ на 100 квадратных метраў плошчу вялікай стаянкі пасажырскіх аўтамабіляў пры краме „Вясёлка” і бары. Вось такая выгода на Выгодзе.

Цяпер у вышэйзгаданых гандлёвых прадуктовых аб’ектах знайшлі працу больш за 60 чалавек. **(яц)**

# Справядлівы гараскоп на 2018 год

**Баран (22.03. — 20.04.)** Год важных рашэнняў. Калі падыдзеш да жыцця сур’ёзна, зоркі памогуць стаць табе на ногі. Восенню можаш разлічваць на шчасце, нават выйгрыш. Будзеш мець сілу і энергію, каб перамагчы ворагаў і дабіцца свайго. Увага на справы глыбокіх адносін. Не адкладвай рашэнняў, трымайся абранай дарогі. Наладжванне цікавых знаёмстваў, якія будуць мець найбольшы ўплыў на твaё жыццё. Час спрыяе пачынанню новых мерапрыемстваў, амбітных планаў датычных адукацыі, падарожжаў, бізнесу. Дбай аб сваё здароўе, слухайся лекараў.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Пераломны год. Не будзеш нудзіцца. Пакінеш за табою тое, што табе ўжо непатрэбнае. Паявяцца новыя людзі і карысныя сітуацыі. Прафесійныя поспехі і стабільная матэрыяльная сітуацыя. Шчаслівыя сітуацыі і выпадкі. Будуць заспакоены нават не да канца ўсвядомленыя твае патрэбы. Але ўсё залежыць ад тваёй веры: у сябе, у чалавека, ва ўдачу, у Бога і ў тое, што мае адбыцца. Не аналізуй спраў і не забяспечвайся на ўсякі выпадак, бо ўсё можа адвярнуцца. Ёсць вера — ёсць шчасце! Выведзеш на просты шлях сваё жыццё. Усё цяпер магчыма. Давярай наканаванню.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Год новых магчымасцей і рэалізацыі мар. Пакінеш за сабой цяжкія адносіны і абавязкі. Але асцерагайся памылковых або лішне аптымістычных рашэнняў. Будзеш адчуваць фазы Месяца, пры маладзіку будзе паніжэнне энергіі. Час ад маладзіка да поўні — час добрых пачаткаў і ўдалых мерапрыемстваў. Добры год для будавання пастаянных сувязей, наладжванне сужэнства. Калі табе на чымсьці залежыць, трымай гэта ў сакрэце аж даб’ешся мэты. Людзі і справы адкрыюць перад табой сваё другое змрочнае аблічча. Восенню любоў, прыліў грошай.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Рыхтуйся на пераломныя здарэнні. Юпітар задбае аб тваю матэрыяльную сітуацыю. Твае рашэнні няхай будуць згодныя з тваімі планамі. Асцерагайся непрыхільных людзей. Нептун заахвочвае да духоўных пошукаў. Засяроджвайся на бягучых і канкрэтных справах. Маеш шанц сёлета адрадзіцца, развіць свой інтэлект, мець навуковыя дасягненні. Не засяроджвайся на дэталях, дзейнічай экспансіўна і ўвысь. Калі чагосьці не ведаеш, не дадумвайся, а збірай канкрэтныя інфармацыі. Не давярай балбатунам. Шукай саюзнікаў і дзейнічай.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Важны год. Два зацьменні Сонца ў тваім знаку пакажуць табе новыя напрамкі развою і схіляць да сур’ёзных дэкларацый. Пашырацца твае гарызонты і ўмацуецца пазіцыя. Будзеш жвавы і схільны да неспадзяваных рашэнняў. Разгорнеш свае крылы і пакажаш іншым, кім ты сапраўды ёсць. Будзеш перакананы, што гэта сапраўды твой год. Будзеш упэўнены, што шчасце на тваіх паслугах, але будзь больш уважлівым і не рызыкуй. Думай рацыянальна. Няхай ганарлівасць і ўдачы не заслоняць табе вачэй! Памылкі хутка выпраўляй.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Год адпачынку і збірання плёну. Будуць прытрапляцца жыццёвыя нагоды. Аўтарытэт і шчасце ў асабістым жыцці. Жыццё з бляскам і таямнічасцю. Добрае здароўе і настрой. Маеш дадатковую падтрымку зорак. Можаш разлічваць на экстрашанцы і выпадкі ў справах, якія раней табе не выйшлі, але на іх табе далей залежыць. Добрая камунікацыя з людзьмі і перапльіў інфармацыі. Адпаведныя весткі будзеш атрымліваць у адпаведны час і ад цябе залежыць, ці гэта выкарыстаеш. Можа гэта быць інфармацыя ў газеце і тэлебачанні а нават сон. Добра і пагодліва стаўся да людзей і жыцця. Лаві нагоды — хутка не паўторацца!

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Перад табою рашэнні, якія зменяць твой падыход да людзей і абавязкаў. Добраўпарадкуюцца твае справы. Восенню фінансавая падтрымка. Пазнаёмішся з новымі людзьмі, закахаешся. Але будзеш тэсціраваны на стрэс. Павысіцца твая актыўнасць, крэатыўнасць і творчыя таленты. Не сумнявайся ў сваіх умеласцях і рэалізуй тое, што адчувае твая душа. Цяпер яна мае магчымасць расквітнець і ты заспакоіш яе патрэбы. Рабі ўсё, што прыносіць табе радасць і прыемнасць, паглядзі на сваё жыццё і выберы цікавы шлях развою. Не страчвай веры ў свае дзеянні. Патрэбная побач цябе такая асоба, якая ў цябе верыць і змабілізуе.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Ідуць добрыя дні. Ад студзеня да паловы лістапада Юпітар у тваім знаку і табе спрыяе. Будзеш упэўнены ў сабе, менш турбот у сваіх магчымасцях, больш падстаў для радасці. Поспехі, цікавыя заданні, карысныя прапановы. Забудзеш пра мінулагоднія трывогі і праблемы. Зможаш здзейсніць свае мары. Пазмагаешся за сваё. Але час ад часу задумайся і прытармазі. Адкрыюцца перад табой зусім новыя магчымасці. Ты цяпер добры правадыр, прыцягнеш людзей да сябе, заразіш іх энтузіязмам — такім чынам здабудзеш найбольш. Марс вызваляе ў табе машыну, якая працуе нават у сне, час ад часу выключ яе, адпачні.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Удалы год, менш клопатаў, больш нагод для святкавання. Не будзеш аднак ленавацца, зоймешся парадкаваннем сваіх фінансаў. Пазнаёмішся з новымі людзьмі. Разгарыцца твой энтузіязм, запал, энергія да жыцця і гарачыя пачуцці. У апошні час ты функцыянаваў крыху як у сне. Цяпер прачнешся і звернешся да жыцця. Лёгка справішся з усім. Будзеш жыць лёгка. Забудзеш пра свае паразы, можаш рабіць усё нанова. Шмат неспадзяваных і раптоўных падзей. Але будзь спакойны, даверлівы, вер — тое, што адбываецца, ідзе к дабру. Восенню Юпітар завітае ў твой знак і паможа табе дабіцца поспехаў.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Год ключавы для тваёй кар’еры і сувязей. Удасца кончыць цяжкія справы. Добры час на парадкі, падвядзенні і важныя рашэнні, якія датычаць спраў пачатых у папярэднія гады. Вырашыць пазбыцца таго, што цяпер табе непатрэбнае ў жыцці. Агромная падтрымка Сатурна — яго трываласць, сіла, вага паможа табе вырашыць большасць важных для цябе спраў, перш за ўсё прафесійных, фінансавых, дзяржаўных, юрыдычных. Актывізуе яна для цябе Добры Лёс, унутраную мудрасць. Усё стане ясным, зразумелым, стойкім.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Гэты год прынясе табе прапановы, якія будуць для цябе пропускам да лепшага жыцця. Хаця поспех будзе патрабаваць высілку, але будзеш задаволены. Без сумненняў сягнеш па тое, што будзе цяпер як рукой падаць. Паявяцца новыя фінансавыя нагоды. Зменіцца твой падыход да жыцця. Будзеш больш відны для іншых. Трансфармацыя часам балючая, але чалавек пасля як новы. Не супраціўляйся гэтым працэсам, якія ператвораць тваю індывідуальнасць і жыццё. Варта — узнагарода гэта вялікае шчасце і палёгка.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Вырашыш жыць разумней і лепш. Возьмешся за рэалізацыю ўласных планаў і мар. На працы будзе табе весціся намнога лепш чым у мінулыя гады, у каханні чакае цябе ўрэшце больш шчасця і спакою. Магчымае павышэнне. Планета Юпітар запоўніць табе не толькі добрыя задумы, але і фінансавую стабільнасць. Планета Уран, пад якой уплывам будзеш, уздзейнічае на масы людзей, выклікае рэвалюцыі, перавароты, раптоўныя змены, абарочвае вонкавымі сітуацыямі на пазітыў ці негатыў, усё залежыць ад асобы, якой гэта датычыць і ад яе рэакцыі. Калі здарыцца штосьці кепскае і знервуешся, дык тая сітуацыя прынясе вынікі адмоўныя для цябе. А калі адпусціш і ўдасца табе гэтым не перайmaцца, гэта сітуацыя абернецца табе ў карысць. Трактуй усё ў натуральны спосаб, незалежна ад таго, што адбываецца, калі гэтаму навучышся, будзеш крэаваць вакол сябе толькі пазітыўныя сітуацыі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | | | | | | |
| | | | 2 | | | | | | | 3 | | | |
| | | | 4 | 5 | | | | | 6 | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | |
| 7 | | | | 8 | | 9 | | | | | | 10 | 11 |

**1.** лік, які „плавае” ў галоўнай палескай рацэ, **2.** мемарыяльнае збудаванне, прадмет культуры мінулага, **3.** складальнік геаграфічных карт, **4.** прыемны пах, **5.** расце даўжэй за ярыну, **6.** лячэбная працэдура з прымяненнем штучнай ныркі, **7.** хакеіст або гімнаст, **8.** даваршаўская сталіца Польшчы, **9.** прыхільнік фашызму, **10.** рэактыўны снарад, **11.** крайняя беднасць.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Аса, вар, вока, воўк, лыч, Нарва, Ур.

Рашэнне: **Варвара кусок ночы ўварвала**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 10 000 egz.

# Галоўная тут вада


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

## Размова з Лявонам ХЛЯБІЧАМ, загадчыкам вадасховішча „Семяноўка”.

**— У „Ніве” ў канцы 1974 года было інтэрв'ю з Уладзімірам Каладзеюком, тады дырэктарам Ваяводскай управы воднай гаспадаркай і меліярацыямі, які сказаў: „Праект прадбачвае меліярацыю каля 31 тысячы гектараў лугоў і забалочаных зямель у далінах верхняга цячэння рэк Нарвы і Супраслі. На абедзвюх рэках будзе ўзведзена каля 40 значных гідратэхнічных будоўляў: плацін, водных парогаў, станцый помпаў для арашэння і г.д. Паўстане таксама вадасховішча Семяноўка. Яно зойме даліну ракі Нарвы паміж вёскамі Бандары, Рыбакі, Боўтрыкі, Бахуры, Буды, Цісоўка, Баб'я Гара, Семяноўка, Лука. Яго паверхня складзе каля 3 тысяч гектараў, а змесціцца ў ім каля 80 мільёнаў кубічных метраў вады. Яна будзе накіравана, па-першае, на арашэнне 31 тысячы гектараў гэтых меліяраваных лугоў і зямель з сельскагаспадарчым камбінатам Візна ўключна, па-другое, частка яе спецыяльным каналам пойдзе ў раку Супрасль, учыніць яе больш багатай вадою, гэтым самым створыцца для горада Беластока вялікі запас пітнай вады, які спатрэбіцца ўжо ў 80-90-тых гадах...”. Гэтыя планы не ў поўні выкананы, бо плаціна пабудавана, але канал у Супрасль не выкапаны. Што сталася, што план не быў даведзены да канца?**

— Калі апрацоўваліся планы, тады выказваліся патрэбы вады, якое Беластоцкае ваяводства патрабавала, было гэта 240-260 млн. кубаметраў у год. Гаспадарка ў той час уступала на новы ўзровень, планавана было бурнае развіццё Беластока, і развіццё сельскай гаспадаркі. І таму была патрэбная вада; тыя водазаборы, што дастаўлялі ваду ў Беласток, былі з перспектыўнага пункту гледжання замалыя — так для людзей, як і буйнеючай прамысловасці. Дзеля гэтага была запланавана пабудова вадасховішча і іншых інвестыцый, між іншым дзеля падачы адсюль вады для патрэб Беластока. Але час не стаіць у месцы. Калі наступілі палітычныя змены, усё пачало запавольваць і з часам аказалася, што столькі вады, як прадугледжвалася, не было трэба. Да ўсяго гэтага памяняліся цэны, людзі сталі інакш размяркоўваць грошы, эканоміць, у тым ліку і даражэючую ваду. Таксама прамысловасць заміж развівацца стала звівацца. А планы былі апрацаваны шмат гадоў раней. І ўзнікла пытанне — што рабіць: ці будаваць той канал на сілу, які можа некалі прыдасца, ці не. А калі пачаўся крызіс, то ён ахапіў і фінансаванне гэтага мерапрыемства. Калі я сюды прыйшоў у 1985 годзе, то прымаў незавершаныя аб'екты, напрыклад на дамбе не было асфальту, бо не было на яго грошай. І на канал таксама не было грошай, і яго рэалізацыю можна было адкласці. А планы асталіся. Усё было нарыхтавана, была вызначана яго траса. І гэта асталося на сённяшні дзень, бо большых патрэб няма, для Беластока пабудавалі новыя глыбінныя водазаборы. Мы бачым, што ў свеце вада з'яўляецца адным з важнейшых чыннікаў, якія вызначаюць гаспадарчае развіццё. Вада становіцца стратэгічнай сыравінай, нават у некаторых рэгіёнах свету яна даражэйшая за нафту.

**— Польшча здаецца быць не вельмі багатай вадою. Але я вярнуся да канала; ці тое, што канал не збудаваны, абазначае, што і ўся інвестыцыя не была зрэалізавана? Бо паявілася такое меркаванне, што калі не была зрэалізавана ўся інвестыцыя, то ўсё, што ад людзей пад яе забралі, трэба людзям вярнуць.**

— Галоўная задача была зрэалізавана, бо галоўная тут вада, вадасховішча, якое дэтэрмінуе апошнія элементы ўсяе задачы. У інвестыцыі былі састаўныя элементы, якія маглі быць зрэалізаваны, або не. Але галоўным элементам было паўстанне вадасховішча і сабранне закладзенай колькасці вады. На ўсе гэтыя задачы былі даваны будаўнічыя дазволы. На канал Нарва — Супрасль дазволу на будову ніхто не даваў, бо гэта быў дадатковы магчымы элемент да галоўнай інвестыцыі, якою было вадасховішча Семяноўка. І галоўная інвестыцыя была выканана і ўва ўсіх прававых дакументах былі экспрапрыяцыйныя рашэнні, абгрунтаваныя пабудовай вадасховішча Семяноўка. Калі будавалі лінію электраперадач, то пісалася, што для патрэб лініі электраперадач. І так гэта трэба разумець. І калі галоўная мэта інвестыцыі дасцігнута, то і інвестыцыя ў праваым сэнсе завершана, на гэта ёсць усе дакументы. І нельга сказаць, што цэласць не зрэалізавана; план быў патэнцыйны, а галоўная задача была зрэалізавана. І яшчэ ніхто не перакрэсліў магчымасці пабудовы канала ад вадаёма Семяноўка ў раку Супрасль, бо можа наступіць такая патрэба і трэба будзе яго рэалізаваць.

**— Адной з мэт інвестыцыі была пастаўка вады для патрэб сельскай гаспадаркі. Ці зараз вада нейкім чынам пастаўляецца на гэтую мэту?**

— Калі сухое лета, то мы падаем столькі вады, каб задаволіць сельскагаспадарчыя патрэбы ў даліне Нарвы. Быў вялікі праект загаспадарання багны Візна, бо там планавалася гадоўля, атрымліванне біямасы і іншае. Час увеў змены і гэта не адбылося. Таксама і сельскагаспадарчая палітыка памянялася і многія гаспадаркі страцілі магчымасць функцыянавання. Мой тата меў дзве каровы, каня, пяць гектараў зямлі з лесам і сенажацямі ўключна. Нас было траіх і ўсе вывучыліся. Наступаючыя змены паказвалі, што такая мадэль гаспадарання не мае перспектыў. На той час, пры тадышніх эканамічных рэаліях, такая гаспадарка заспакойвала патрэбы. Калі настаў капіталізм, то пры сённяшніх цэнах малака і цэнах таго, што трэба купіць, каб утрымаць карову, заплаціць за ўсе машыны і дадаткі да іх, то трэба было б дакладваць, каб утрымаць дзве каровы, не гаворачы пра ўтрыманне сям'і. І гэта трэба ўсведамляць, асабліва тым людзям, якія выступаюць у ролях спадкаемцаў, у ролях галоўных пакрыўджаных і намагаюцца рознымі метадамі вярнуць тыя землі, якія былі экспрапрыяваны пад вадасховішча Семяноўка. Гэта трэба выразна размежаваць, бо тут узорам Варшавы пачаўся працэс вяртання тых экспрапрыяваных дзялянак, але не тымі асобамі, якія тут жылі, але асобамі прыезджымі, якія знюхалі інтарэс, што на гэтым можна добра зарабіць, бо вядома, якая была цана зямлі, калі не было вадасховішча, а якая цяпер — тут вялікая розніца і на гэтым можна было б добра зарабіць. А робячы легенду, што людзі былі вельмі моцна пакрыўджаны, то няхай глянуць на тыя вёскі, якія не былі выселены. Іх ніхто не выганяў, ніхто не высяляў, а вёскі стаяць пустыя. Папросту не было перспектывы маладым людзям, у тым ліку ў Луцэ ці іншых вёсках, бедных вёсках, дзе на адным панадворку, у адной хаце жылі па дзве-тры сям'і, не было дзе пакрунуцца. Не гаворачы аб тым, што можна было штосьць разбудаваць ці падумаць пра большае гаспадаранне. Не было перспектыўнай зямлі, якая давала б магчымасць развіцця, і не было месца, бо на панадворках немагчыма было заврнуцца возам. У мяне ёсць выцэнкі з паловы 1980-х гадоў. Калі я стаў сюды на працу ў 1985 годзе на майстра будовы, я зарабляў 900 злотаў. А адна сярэдняя гаспадарка ў Гарбарах, паводле тадышніх цэн, была выцэнена на амаль тры мільёны злотаў. І можна меркаваць, ці хтосьць тых людзей крыўдзіў. Нават сабачую будку выцэньвалі, плот, кожную жэрдку. І тыя людзі, якія былі экспрапрыяваны, нічога не гавораць пра сваю крыўду. Гэта іх унукі, праўнукі, з інспірацыі тых людзей, што сюды прыехалі і прыкідваюцца, што ў іх нешта супольнае і выступаюць быццам у інтарэсе гэтых нібы пакрыўджаных, яны маюць на ўвазе сваё дабро і нажыву; яны робяць палітыку.

**— Але ці яны маюць магчымасць вярнуць тую маёмасць, бо мне здаецца, што калі яна стала маёмасцю новага ўласніка, то ўжо вяртання няма.**

— Я быў бы за тым, каб быў якісь закон, бо гаворыцца, што калі мэта інвестыцыі не зрэалізавана, то тады можна. Але паводле мяне можа гэта зрабіць уласнік, але спадкаемца якую можа мець падставу, гаворачы, што ён калісь тут быў, гуляў у пясочніцы, калі той уласнік быў экспрапрыяваны, атрымаў грошы, атрымаў тое, што хацеў. Бо ж даставалі кватэры ў Бандарах, за якія не плацілі, а грошы, што атрымлівалі ад экспрапрыяцыі, мелі на ўласныя патрэбы. Вядома, мяняўся час, мяняліся палітычныя і гаспадарчыя рэаліі. Хто заінвеставаў, той выходзіў добра. Вось я пахаджу з Рыбакоў, што пры самой дамбе. І ў нашай вёсцы хацелі, каб яе экспрапрыявалі, бо казалі што ў рэшце рэшт зажывем у блоках, не трэба будзе рабіць. Бо ж бачылі, якая была перспектыва, на нашым панадворку было пяць гаспадароў; у іншых было лепш, але перспектывы развіцця не было. Кожны хацеў перайсці ў блок. Многія людзі так хацелі, хаця не ўсе, каб спакойна на старасць пажыць, бо маладыя павыязджалі, сельскай гаспадаркай па сутнасці амаль ніхто не займаўся; асталіся тыя, што не маглі знайсці ў горадзе працы, а такіх можна палічыць на пальцах аднае рукі. З Гарбароў астаўся адзін — пабудаваўся ў Рыбаках. З Лукі не больш пяці чалавек асталося. Усе ўцякалі ў гарады. Хто хацеў у блок, атрымліваў блок, хто хацеў будавацца, той будаваўся — атрымліваў надзел матэрыялаў і будаваўся. Як адбывалася выцэнка? Эксперт расцэньваў маёмасць як новую, а пасля ўстанаўлівалася ступень зношвання і на гэтай аснове выплачвалася кампенсацыя. І нельга гаварыць, што плацілі грашакі. Тут экспрапрыяваныя людзі раптам пачалі ездзіць вялікімі фіятамі, пачалі гаварыць, што будуюцца ў горадзе, што жывуць у блоках. Усе стараліся падчапіцца ў працэс экспрапрыяцыі. Калі ў сям'і было некалькі пакаленняў, то старэйшая сям'я атрымлівала кватэру, і малодшая сям'я атрымлівала кватэру.

**— А што тут было б, калі б гэтай інвестыцыі, гэтага вадасховішча тут не паўстала — што тут было б?**

— Я паехаў да калегі, што жыве ў Скарышэве каля Нарвы і папрасіў яго праехацца па тамашніх вёсках. Там, дзе ён жыве, у Скарышэве, два сталыя гаспадары, адзін прыезджы. Паехалі ў Янова — харошая вёсачка на ўзгорку, чысценькая, заселеныя дзве хаты. На лавачцы сядзелі тры жанчыны, пустата. Другая вёсачка Качалы — тое самае; спярша „варшавякі” пакупілялі, трохі пабудавалі, але і яны пераcталі прыязджаць. У Янове калісь поўна дзяцей у школе было, а цяпер нікога няма. Такі лёс і тут быў бы. Дзякуючы таму, што паўстала вадасховішча, шмат тут людзей пабудавалася навокал — у Бандарах блокі, дамы ў Семяноўцы. У Луцэ то можа з тры разы больш хатаў пабудавалі, чым было. Шмат людзей адсюль, вывучыўшыся, вярнулася, у іх ліку я; і сваяк мой, ляснік, вярнуўся. Нас сюды цягнула, але была і перспектыва. А тут жа ж не толькі вадасховішча паўстала — паўсталі ачышчальні сцёкаў, паўсталі асфальтавыя дарогі ў рамках вадасховішча, паўсталі новыя лініі электраперадач, паўсталі водаправоды ў навакольных вёсках...

**— А якую цяпер карысць дае вадасховішча? Тут электрастанцыя, тут водзіцца рыба, тут адпачынак...**

— Ёсць вада, якую можна выкарыстаць для ўсіх патрэб, бо вядома, што ў Польшчы рэсурсы вады небагатыя. Іспанію ўяўляем сухой краінай, але запас вады там шмат большы чым у Польшчы. Ваду можна выкарыстаць для арашэння, вадасховішча можа засцерагчы даліну перад паводкай. Вядома, што даліна штораз больш забудоўваецца; селяцца новыя людзі, якія ўваходзяць на тую тэрыторыю, якую калісь залівала вада і калі б ішла растопная хваля, то тыя хаты затапіла б. Вырабляем электраэнергію за 600 тысяч злотаў у год. Рыбная гаспадарка таксама дае прыход. Рэкрэацыя. І стымуляванне развіцця гэтай тэрыторыі. Невядома, ці калі б не было тут вадасховішча, ці паўстала б тут столькі адпачынковых аб'ектаў, пабудавалася б столькі людзей. Людзі не так выязджаюць, бо бачаць перспектыву. Засталіся людзі, няма такога абразка як у вёсках ніжэй дамбы ці ў прыгранічнай паласе. Вадаём прычыніўся да таго, што людзі тут асталіся. Тут быццам была ўчынена крыўда, але там дзе не было крыўды, няма людзей. А тут асталіся вёскі, асталіся людзі, усё развіваецца.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў
**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

ISSN 0546-1960 52